# ЛіМ ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

28 САКАВІКА 2003 г. № 13/4199 КОШТ 520 РУБ.


АНОНС!

**МЫ — БЕЛАРУСЫ!**

*"Няхай акцыя па стварэнні кнігі "Мы — беларусы!" стане агульнанацыянальнай, агульнанароднай!"*

5

***«ТУГА БЕЛАВЕЖСКАЙ ПУШЧЫ»*** — у нарысе Міхала ТАЛОЧКІ

4-5



**Яшчэ раз пра перапіску Максіма ТАНКА з Ларысай ГЕНІЮШ**

14-15



ПАМЯЦЬ

# ПОМНІКІ — ГЭТА ЦВІКІ, УБІТЫЯ Ў ПАДЭШВЫ СТАГОДДЗЯЎ!

*Так казаў народны мастак Беларусі Аляксей ГЛЕБАЎ — аўтар вядомага помніка Францішку Скарыне ў Полацку.*

*24 сакавіка славутаму скульптару споўнілася б 95 гадоў.*



Калаж А. ГАЎРОНА і В. КАЛІНА




## НА СТАЛЫМ МЕСЦЫ

«13 паласа» — новая рубрыка "ЛіМа". На гэтай старонцы будуць друкавацца пародыі, эпіграмы, гумарыстычныя творы, сатыра і сяброўскія шаржы.

13

## КОЛА ДЗЁН

***Ужо тыдзень, як ідзе вайна ў Іраку. Гінуць не толькі вайскоўцы з аднаго і другога боку, але і мірныя людзі. Увесь свет з трывогай сочыць за развіццём падзей. Мільёны людзей пратэстуюць супраць вайны, якая заўсёды несла і нясе толькі разбурэнне і няшчасце.***

### ІНІЦЫЯТЫВА ТЫДНЯ

Улады Магілёва сумесна з прадстаўнікамі шэрагу грамадскіх арганізацый і партый выступілі з ініцыятывай надання Магілёву звання "горада-героя". Рашэнне аб магчымасці надання звання "Горад-герой" Магілёву будзе прымаць, хутчэй за ўсё, Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь. Праўда, паколькі СССР ужо не існуе, статус Магілёва ў выпадку станоўчага рашэння будзе адрозніваецца ад тагачаснага.

### ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

Тавараабарот Беларусі з краінамі СНД у 2002 годзе склаў 10677 мільёнаў долараў, у тым ліку экспарт — 461 мільён долараў і імпарт — 6215 мільёнаў долараў. У параўнанні з 2001 годам тавараабарот павялічыўся на 4,7 працэнта. Экспарт знізіўся на 0,7 працэнта, імпарт вырас на 8,9 працэнта. Сальда Беларусі з краінамі СНД склалася адмоўнае ў памеры 1754 мільёны долараў. Асноўнымі партнёрамі нашай краіны ў 2002 годзе сярод краін СНД з'яўляліся Расійская Федэрацыя (доля ў агульным тавараабароце складае 92,7 працэнта), Украіна (доля — 5,27 працэнта), Малдова (доля — 0,81 працэнта). Доля Расіі ў экспарце Беларусі склала 50 працэнтаў. Гэта самы нізкі паказчык з 1996 года.

### РАШЭННЕ ТЫДНЯ

На сесіі Мінскага гарадскога Савета пры разглядзе пытання аб бюджэце на 2003 год не прадугледжаны пяціпрацэнтны збор за рэкламу. Пра гэта паведамілі ва ўпраўленні метадалогіі інспекцыі па падатках і зборах па Мінску. Рашэнне ўступіла ў сілу.

### ПЕРАМОГІ ТЫДНЯ

У расійскім Ханты-Мансійску прайшоў чэмпіянат свету па біятлоне. Нашы спартсмены вярнуліся дамоў з серабром Алены Зубрылавай і бронзай за мужчынскую эстафету 4х7,5 км.

### ПЕРСПЕКТЫВА ТЫДНЯ

Да 2005 года ў нашай краіне будзе створаны яшчэ адзін нацыянальны парк — "Белая Русь". Размесціцца ён у Лагойскім раёне і зойме плошчу каля 40 тысяч гектараў. На тэрыторыі парку будзе створаны цэнтр экалагічнай адукацыі і пазнавальнага турызму.

### ПАДРЫХТОЎКА ТЫДНЯ

4 красавіка ў Горках павінен адбыцца першы студэнцкі фестываль сатыры і гумару "Тарас на Парнасе". Яго заснавальнікамі сталі міністэрствы інфармацыі і адукацыі Беларусі, Магілёўскі аблвыканкам, Горацкі райвыканкам, Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія і рэдакцыя часопіса "Вожык". Да свята ў "Бібліятэцы "Вожыка" выйшла кніга з паэмай "Тарас на Парнасе" на беларускай, рускай і ўкраінскай мовах.

### ФУТБОЛ ТЫДНЯ

29 сакавіка да айчынных балельшчыкаў прыйдзе "вялікі" футбол: у гэты дзень у 18.30 на мінскім стадыёне "Дынама" адбудзецца чарговы адборачны матч да чэмпіянату Еўропы па футболе — 2004 паміж нацыянальнымі зборнымі Беларусі і Малдовы. Абедзве каманды знаходзяцца ў "хвасце" табліцы 3-яй адборачнай групы, не набраўшы ніводнага ачка (малдаване — пасля дзвюх гульняў, наша зборная — пасля трох). Лідзіруюць зборныя Галандыі, Чэхіі і Аўстрыі, якія маюць на сваіх рахунках па 6 ачкоў.

### НАПАМІН ТЫДНЯ

У адпаведнасці з парадкам вылічэння часу, вызначаным урадам Беларусі, наша краіна, як і іншыя еўрапейскія краіны, 30 сакавіка пераходзіць на "летні час". Гэта адбудзецца ў 2 гадзіны ночы, калі стрэлкі гадзіннікаў на тэрыторыі Беларусі перавядуцца на гадзіну наперад.



## ДАНІНА ПАВАГІ

# ...А ПЕСНЯ БУДЗЕ ЖЫЦЬ І ЖЫЦЬ!

20 сакавіка ў "жывым" эфіры аднachасова па двух тэлеканалах — БТ ды АНТ — ішла трансляцыя дабрачыннага канцэрта, прысвечанага памяці Уладзіміра Мулявіна.

"Я буду маліцца і сэрцам і думамі..." — лейтматывам прайшла праз атмасферу той мемарыяльнай вечарыны фанаграма адной з лепшых песень У. Мулявіна, прасякнутых энергіяй і духам неўміручага Купалавага радка. Увогуле, тэма неўміручасці мастакоўскага духу і творчага таленту лучыла ўсе эпізоды ўрачыста-журботнай мемарыяльнай імпрэзы, зладкаванай у агромністай зале Палаца Рэспублікі.

Намеснік прэм'ер-міністра РБ Уладзімір Дражын, адкрываючы вечар, зазначыў, што ў кожным народзе ёсць людзі, справы якіх застаюцца назаўсёды, што Уладзімір Мулявін — гэта асаблівы радок у беларускай культуры, што ён упершыню здолеў спалучыць у песні беларускія традыцыі ды сучасныя эстрадныя напрамкі, што дзякуючы яго творчасці амаль увесь свет змог пачуць харастcва беларускай мовы... Віцэ-прэм'ер нагадаў, што па ініцыятыве Прэзідэнта Беларусі робіцца шэраг захадаў дзеля ўшанавання памяці вялікага "песняра", у тым ліку разглядаецца мажлівасць зрабіць гэта і на радзіме У. Мулявіна, у Екацярынбургу.



Кінахроніка, відэакадры, фотапраекцыі неадноймы нагадалі і жывы голас, і жывое аблічча "песняра", і горкія хвіліны развітання з ім. Удзельнікі спляталі адмысловы вянок са "свежых кветак" шчырых слоў ды спеваў. "Песняры", адкрыўшы канцэрт акапэльнай "Рэчанькай", якая гэтым разам змяніла свой метафарычны сэнс і прагучала са сцішаным трагізмам — бо як цяпер ёй "поўнай быць"? Спявалі расійскі таварыш У. Мулявіна — Валерый Ярушын з ансамблем "Новы "Арыель", украінская зорка Таісія Павалій. Віртуозны малдаўскі выканаўца на флейце Пана Канстанцін Масковіч і "падпяваў" Валерыю Скаражонку ў песні "Марыся", і прэзентаваў уласныя варыяцыі на тэму "Ой, ляцелі гусі з броду". Выступалі беларускія дуэты Аляксандра і Канстанцін, Ядвіга Паплаўская ды Аляксандр Ціхановіч. Кампазітар Ігар Лучанок, прыгадаўшы сваё творчае сяброўства з У. Мулявіным, зачытаў кранальны ліст ад Аляксандры Пахмутавай і Мікалая Дабранравава, а потым сеў за раяль, падтрымаўшы выкананне цудоўнай "Алесі".

Вядомыя госці — Эдзіта П'еха, Нані Брэгвадзе, ансамбль "Арэра", дарылі свае спевы і далучаліся да выканання папулярнага рэпертуару "Песняроў".

Вёў вечарыну сябра У. Мулявіна артыст Уладзімір Гасцюхін. Гэта ён прыгадаў радкі: "Пайшоў Пясняр пад белым крыжам... За годам год перабяжыць, а песня будзе жыць і жыць!"

А потым былі сапраўдныя жывыя кветкі. Удзельнікі канцэрта, сябры, гледачы ўскладалі іх да п'едэстала, на якім сумавала асірацелая мулявінская гітара.

**С. Б.**

## АКЦЭНТ

***28 сакавіка — юбілейная вечарына, прысвечаная 10-годдзю Сімфанічнага аркестра Брэсцкага абласнога тэатра драмы і музыкі. Акурат у сакавіку 1993 г. па ініцыятыве мясцовага кіраўніцтва быў заснаваны аркестр, у гонар якога (і з удзелам якога) ладкуецца сённяшняя ўрачыстасць. Прадстаўляць калектыў, салістаў, правесці "парад дырыжораў" — гэта мэў на мэце мастацкі кіраўнік аркестра і галоўны яго дырыжор Аляксандр САСНОЎСКІ.***

# ГАЙДА Ў БРЭСТ!



Вядомы маэстра выступіць поруч са сваім настаўнікам, дэканам педагагічнага факультэта БАМ з Магілёва Леанідам Івановым ды з уласнымі вучнямі: в. а. галоўнага дырыжора Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы РБ Вячаславам Чарнухам, дырыжорам Беларускага дзяржаўнага музычнага тэатра Мікалаем Макарэвічам, магістрантам БАМ Аляксандрам Антановічам, другім дырыжорам брэсцкага аркестра Аляксандрам Куўшынніківым. За пульт выйдзе і першы кіраўнік, пры якім пачыналася фарміраванне адметнага сёння калектыву, — Уладзімір Рыжкоў.

Салістамі будуць Ніна Шарубіна (Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы) ды брэсцкія вакалісты Уладзімір Махнач (тэнар) ды Барыс Пяцюк (бас).

Чакаецца шмат гасцей ды віншаванняў, музычны сюрпрыз з Запарожжа. Будзе гучаць музыка Г. Свірыдава, М. Мусаргскага, А. Барадзіна, П. Чайкоўскага, Р. Вагнера, Д. Вердзі, К. Вебера, А. Хачатурана. І... хіты Д. Бенсана ды К. Сантаны.

**С. Б.**

**На здымку: маэстра А. САСНОЎСКІ.**

## ІМПРЭЗЫ

# АДЗНАЧЫЛІ ЮБІЛЕЙ ЗЕМЛЯКА

*Зноў вясна,*
*Зноў купаюцца далі*
*ў разлівах,*
*Зноў так чыста*
*блакітная гладзь...*
*І так хочацца*
*ў думках маўклівых*
*Залатыя палі цалаваць.*

Гэтыя радкі Тодара Кляшторнага не раз узгадваліся на яго радзіме — на Лепельшчыне, дзе ў дзень стогадовага юбілею паэта ладзіліся ўрачыстасці.

Тодар Кляшторны нарадзіўся ў вёсцы Парэчча. Адсюль пайшоў у вялікі свет. Вучні і настаўнікі Каменскай сярэдняй школы падрыхтавалі адмысловую музейную экспазіцыю, прысвечаную жыццю і творчасці паэта, якую і адкрылі ўрачыста разам з гасцямі. А ў той дзень да іх прыехалі кіраўнікі раёна на чале са старшынёй гарвыканкама Пятром Шыкшнянам, госці з Мінска: дачка паэта Мая Тодараўна, пісьменнікі Анатоль Вярцінскі, Навум Гальпяровіч, Вячаслаў Корбут. З Віцебска завіталі Тадзіяна Тодараўна Кляшторная, Давід Сімановіч, Сяргей Рублеўскі, кіраўнікі абласнога ўпраўлення культуры.

Пасля адкрыцця бібліятэкі-музея ў Лепелі, у гарадскім Доме культуры адбыўся вялікі літаратурны вечар, у якім разам з гасцямі бралі ўдзел сябры мясцовага народна-музычнага клуба "Выток", якія, дарэчы, выпусцілі да гэтага дня зборнічак вершаў "У вянок памяці Тодара Кляшторнага. Трэба дадаць, што ў гонар земляка ў райцэнтры названа вуліца.

— Я адчула, што бацька нібы ўваскрос у памяці тых, каму ён прысвячаў вершы, і шчаслівa ўдзячная ўсім, хто да гэтага далучыўся, і ў першую чаргу яго землякам, — сказала са слязамі на вачах дачка паэта Мая Тодараўна. І з гэтым згадзіліся ўсе.

**Н. К.**

# ПРОПІСІ НА ПЫЛЕ

*И там и здесь между рядами*
*Звучит один и тот же глас:*
*"Кто не за нас — тот против нас.*
*Нет безразличных: правда с нами".*

*А я стою один меж них*
*В ревущем пламени и дыме*
*И всеми силами своими*
*Молюсь за тех и за других.*
**(М.Валошын)**

...самотна мне і паскудна. Як пісаў рускі класік: "и некому руку подать"...

Аднак — працягваю... Бо вунь якія драматычныя праблемы чалавечага жыцця засланяюць усе гэтыя мае дробныя на іх фоне "суверэнныя" закавыкі. Эканамічны спад, дэмаграфічны зрух, непазбежнасць вайны, магчымы новы перадзел свету...

А я тут са сваёй беларускай мовай, незалежнасцю і дэмакратыяй. Чысты розум толькі б пасмяяўся ды пакпіў з маёй бяды-клопату, але душа і сэрца паўсталі б, засмуцілі і змусілі б выпрастацца кожную звіліну тых прагматычных глуздоў.

Чаго я хачу ад суайчыннікаў? Нацыянальнай свядомасці?

І ўсяго?!

Мама мая калісьці плакала-ляментавала праз тэлефон напярэдадні кожнага апазіцыйнага мітынгу ў Мінску: *"Сынок, напрамілы Бог, не лезь ты ў натоўп. Заставайся насам ..."*

І то праўда, бо чаго толькі чалавечы розум ні прыдумаў: і кола, і ружжо, і самалёт, і ядзерную бомбу... а ў мамы ніколі ў галаве ні адной дурной думкі не было: вот, толькі каб дзеці шчаслівыя былі, *вот, каб дождж на сухмень, вот, каб да прымаразкаў бульбу выкапаць, вот, каб вайны не было, вот, каб унукі здаровыя, вот, каб пенсію, вот каб прыехалі, вот...*

І гэта ўвесь чалавек, усе яго самыя запаветныя зямныя думы-жаданні?! Ці не дыктавала іх маме яе родная мова? Не без таго, пэўна. Бо ўсе тыя вышэй прыведзеныя пажаданні на іншай мове ёй чужымі былі б...

Я нават і ўявіць не магу, каб яна мне сказала: *"Сынок, о чем ты грустишь?"* І пад дулам "калашникова" не вымавіла б. Аднак: *"Не серчай, мамаша, к Пасхе приеду"* — не я, але ўжо брат мой сказаць ёй можа... *"Ды не сярдую я, сынку, прыязджай, чакацьму..."* — ласкава адказала б яна, бо ведае мову і бязмоўе кожнага свайго сына. Чым далей ад нас нашыя мамы, тым далей ад нас родная мова. У прамым і ў пераносным сэнсе. Паўгода ў адведках не быў. Прыехаў. Мама просіць: вазьмі ты ў адрынцы лагу, ды паспрабуй вушак у свіным катуху падважыць, каб варотцы зачыняліся... Стаю, глузды, як воск, расплавіўшы, даўмецца не магу: што ж то за *лага*, трасца на яе?! Так паступова і апускаешся, як той вушак у жывёльны гной, жывучы, між іншым, на "вуліцы Л.Талстога" (так на самым пачатку 80-х абазвалі глеістую гразкую прылесную вуліцу, на якой яшчэ заспеў пажыць і я ў сваёй роднай вёсцы)... Не імем Янкі Купалы, Уладзіслава Сыракомлі ці хоць бы якога бальшавіка-беларуса альбо туташняга партызана, а менавіта "именем великого русского человека"... Свае не дацягваюць ці што? І ў райцэнтры, дарэчы, цэнтральны пляц перад мясцовым "белым домам" спярша насіў імя Сталіна, а пасля і да сёння — Маякоўскага... Вот узяць бы і скарыстаць нарэшце сучасным суверэнным чыноўнікам тую бацькоўскую "лагу нацыянальнай свядомасці" ды вышэй падважыць нашы беларускія імёны... Ці па цяперашнім часе раней бацькі толькі ў пекла можна?..

Зрэшты, у сучасным свеце, адрозна ад *свету мацярынскага*, "напрацаваная" ўжо іншая мараль, дзейнічаюць інакшыя ўзаемаадносіны паміж людзьмі і выпрабаваныя часам законы грамадскага жыцця. Прытрымліваючыся гэтых законаў, рад няволя, а ўсе краіны свету змушаныя сёння інтэгрыравацца і ў галіне эканомікі, і ў галіне культуры. Адначасна з той інтэграцыяй насычаюцца і перацякаюць адна ў адну шмат якія разнародныя і малалікія людскія мовы. (Ці не заўважаеце вы, што ў нашым будзённым сумоўі — і на працы, і ў грамадскіх, і ў сямейных узаемаадносінах — нярэдка ў адным сказе апынаецца адразу некалькі слоў з розных еўрапейскіх моваў, што неўпрыкмет (тэхналагічна) прыжыліся і звілі гнёзды на нашых цёплых і памяркоўна-талерантных вуснах.)

Праз незаўважныя формы касмапалітызму паступова размываюцца суверэнныя і незалежныя грамадзянскія суб'екты. Заціраюцца і назаўжды губляюцца вякамі напрацаваныя цэлыя культурныя слаі асобных народнасцяў, а таксама не маючыя аналагаў нацыянальныя каштоўнасці, як самадастатковыя і паўнавартасныя, бо, інтэгрыруючыся з іншымі, *больш* магутнымі і эканамічна багатымі суб'ектамі, яны ўжо не маюць моцы захоўваць большую частку свайго самабытнага этнасу. Але ж кожны дасведчаны чалавек скажа мне, што гэтак было і тысячу, і дзве, пяць тысяч гадоў таму — і цывілізацыя, і самакаштоўнае чалавечае жыццё ў прыватнасці не загінулі, а зрабіліся яшчэ мацнейшымі, больш інтэлектуальнымі і з'яднанымі агульнай ідэяй выжывання перад магчымымі прыроднымі катаклізмамі, якія насамрэч могуць сцерці ўсё жывое і разумнае з нашай планеты, а то і ўвогуле ператварыць Зямлю ў касмічны прах...

Не трэба толькі ўпадаць у беспрасветны песімізм і, як некаторыя вясковыя дзяды, загадзя рабіць сабе труну, абвінавачваючы ў сваёй будучай смерці свайго больш здаровага суседа: "Расія нас духоўна вынішчыла" і г.д. (ну, не вынішчыла ж яна, да прыкладу, культурны этнас Эстоніі, Літвы альбо Грузіі, якая, дарэчы, спарадзіла тыранічную фігуру самога Сталіна). Давайце цвяроза пафантазіруем: а калі б Беларусь па Брэсцкім міры 1918 года цалкам апынулася не пад Расіяй, а пад Польшчай, то што б там ад нашага нацыянальнага духу засталося да гэтай пары, паколькі Польшча была і ёсць *унітарнай каталіцкай* дзяржавай у адрозненне ад *шматнацыянальнай* і *шматканфесійнай* Расіі?

Каб атрымаць адказ на гэтае спрадвечнае для нас пытанне, варта параўнаць хаця б вось гэтыя, найбольш помныя, былыя ідэалагічныя "модулі". З гімна СССР:

*"Союз нерушимый республик свободных*
*Сплотила навеки великая Русь".*

З гімна БССР:

*"Мы, беларусы, з братняю Руссю*
*Разам шукалі к шчасцю дарог".*

І страфа з верша, які змушалі завучваць напамяць у польскіх школах на "крэсах":

*"Kto ty iestes?*
*Polak mały.*
*Jaki znak twoj?*
*Orzel biały."*

Калі ў першай цытаце *"рэспубліка"* ўпамінаецца, а ў другой — *"беларусы"* як нацыя ўвогуле, то ў трэцяй — ні тое, ні другое (*"polak maly"*). Вось гэта і ёсць наша левае і правае — усходняе і заходняе. А мы, як заўжды, — пасярод...

І пакуль не займеем уласнай самасці і самадастатковасці нацыянальнай ды дзяржаўнай, гэтак і будзем *выкручвацца і звівацца* паміж молатам і кавадлам.

Але як гэта ні парадаксальна: у перспектыве менавіта *беларуская доля* сярод усіх іншых можа аказацца не з горшых... І не ў апошнюю чаргу таму, што маем дастаткова доўгі і "добра" помны паднявольны вопыт, які загартоўвае волю не толькі кожнага асобнага чалавека, але і ўсёй нацыі агулам, і ўжо нават з гэтай прычыны маем падставы быць духоўна і маральна мацнейшымі і больш высакароднымі за нашых былых заваёўнікаў і прыгнятальнікаў, а значыць, глыбока ў сабе настойліва і няспешна выспельваць здаровыя ўсходы для перспектывы ўласнага нацыянальнага адраджэння і самадастатковага аўтаномнага развіцця ў інтэгрыраваным супольным свеце...



Шукаючы ў Янкі Брыля, ужо папярэдне згаданую мной, польскую цытату, накалоўся я на адзін яго трапны лірычны запіс:

"Беларус *Быкаў напісаў таленавітую аповесць "Сотнікаў"*, украінка *Шапіцька паставіла па ёй таленавіты фільм "Восхождение". І разам у іх — пра веліч рускай душы галоўнага героя...*

*І сапраўды па-евангельску: у каго няма, у таго аднімецца, а ў каго ёсць, таму яшчэ і дадасца. Ад беднасці яно, нашай і ўкраінскай, ці ад лішняга багацця?"*

Таму, яшчэ раз прыпомніўшы прыродныя катаклізмы і духоўныя апакаліпсісы зямной цывілізацыі, будзем мець на ўвазе, што не менш страшны за прыродную стыхію і, пэўна, больш небяспечны для ўласнага жыцця *сам чалавек* — яго розум і жывёльныя інстынкты ў барацьбе за сваё прыватнае (альбо этнічнае і грамадскае) выжыванне (ці нажыванне), калі перад ім паўстае выбар: быць на баку Дабра альбо Зла... У падобным выпадку нам нічога не застаецца, як толькі верыць у высокі інтэлект чалавека і ў вышэйшую Сілу над ім — Усявышняе вяршэнства вечнасці...

Нашыя ж літарацкія перапякі — ты за белых, я за чырвоных — гэта часовы пазатворчы вэрхал, на які не варта асабліва зважаць, бо ўсё дробнае паглынецца неўзабаве агульнай гармоніяй жыцця...

Памятаю, праз колькі месяцаў пасля майго ўладкавання на працу ў "ЛіМ", адзін таленавіты паэт і мой добры таварыш, скептычна-коса глянуўшы на мяне зверху ўніз, сказаў: *шкада, Лявон, да гэтай пары ў цябе была такая чыстая і беззаганная біяграфія, а цяпер...* І, не дагаварыўшы, спачувальна цяжка ўздыхнуў... (Я так і не даймеўся: дык што ж цяпер? Якое "западло" я дзею сёння на ягоную думку?..)

О-о-о, раздражнёна падумалася мне тады, калі б мая мама пачула гэтыя яго словы пра мяне, то, пэўна, палічыла б майго таварыша за ненармальнага. Бо за ўвесь час маёй (*многім* у літаратурных колах *нядобра* вядомай) "чыстай і беззаганнай біяграфіі" яна паклала столькі сваіх *сіл* і *здароўя на маё выратаванне*, што — крый Божа — каб такое выпала на долю маці згаданага паэта, то ці здужала б тая годна перажыць падобнае грэхападзенне свайго сына... Як пісаў Нобелеўскі лаўрэат:

*"Дай им цену, за которую любили, чтоб за ту же и оплакивали цену".*

Бо ўсё ў жыцці адносна. Час пакажа, хто нарадзіўся чалавекам, а хто ім пражыў...

Дэмакратыя, як і камунізм, рэчы эзатэрычныя (ўсяго толькі ідэалагічныя фантомы), паколькі ў пэўнасці іх ніколі не было, няма і наўрад ці будзе. Вядома, можна залезці ў нутро гэтых псеўдапанацэяў і навукова выдаць на-гара з іх цёмных забояў "тоны руды" дзеля гэтак жаданага "грама радыя"... Але ці нам, беларусам, распавядаць байкі пра наступствы *радыя*?!

Свабода, як норма паводзін і годнага зямнога вычування, закладваецца, выспельваецца і прарастае ў істоце кожнага канкрэтнага чалавека, аднак, калектыўнае яе праяўленне заўжды небяспечнае для грамадства ў цэлым, паколькі вектары людскога волявыяўлення з нагоды той ці іншай дзеі альбо ідэі супадаюць вельмі рэдка...

Чалавек па сваёй — задуманай Творцам — сутнасці даволі простая істота. І, як ні дзіўна, з гэтай жа прычыны і дасканалы. Шкада, што ўжо з першага граху пачалося яго ўнутранае самаразбурэнне. А паколькі кожны канкрэтны чалавек, апроч агульначалавечай і нацыянальнай, мае яшчэ і сваю ўласную гісторыю і філасофію жыцця, то нашаму розуму і душы анічога іншага не застаецца як змірыцца са сваім паднебным прадвызначэннем...

А мы ўсё шукаем ворагаў наўкол сябе, тады як самы злейшы з іх — у нас саміх, бо, аказваецца, мы самі выпрацоўваем атруту з вульгарна-цынічных адыходаў зямнога жыцця, якія праз нашу бяспечнасць патрапіўшы ў нутро, паступова раз'ядаюць яго, як злаякасная пухліна...

І ўсё ж, шаноўнае спадарства, нават вопытны доктар, выявіўшы паталогію, не заўсёды можа "выпісаць пэўны рэцэпт" для канчатковага выздараўлення нашага арганізма. Што ўжо казаць пра мяне, хворага чалавека ад літаратуры з цэлым букетам творчых праблем...

Таму — выбачайце за *безадказнасць* перад пастаўленымі пытаннямі.

Адно абнадзейвае: што ні здарэцца ў гэтым свеце — а, у рэшце рэшт, перамагае здаровае і разумнае: і ў прыродзе, і ў чалавеку, і ў людскім грамадстве.

Бо яшчэ ад Пачатку было вызначана: *варварам — час, сейбітам — вечнасць...*

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

# НА ХВАЛЯХ БЕЛАРУСКАГА РАДЫЁ

Сярод шэдэўраў ананімнай літаратуры пачэснае месца займае паэма "Тарас на Парнасе". Рэдакцыя часопіса "Вожык" выпусціла гэты твор на трох мовах — беларускай, рускай і ўкраінскай. Прэзентацыя кнігі адбудзецца ў Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі, дзе пройдзе 4 красавіка першы беларускі фестываль студэнцкага гумару, які ладзяць Міністэрства інфармацыі, Магілёўскі аблвыканкам і рэдакцыя часопіса "Вожык". Пра кнігу, фестываль, ананімную літаратуру пойдзе размова ў аўтарскай праграме Навума Гальпяровіча "Брама" ў аўторак, 1 красавіка, у 22 гадзіны 30 хвілін.

У сераду ў гэты ж час — праграма Святланы Шалімы "Авансцэна", а ў чацвер аматараў літаратуры чакаюць цікавыя сустрэчы з Галінай Шаблінскай у яе аўтарскай праграме "Палітра". І завершыць тыдзень як заўсёды цікавае і арыгінальнае "Сентыментальнае паляванне" Ірыны Шаўляковай.

З шэдэўрамі беларускай і сусветнай літаратуры пазнаёмяць "Кароткія гісторыі" пасля паўночы.

"Літаратурны праспект" з Алесем Бадаком — у суботу, у 10.45. А ў нядзелю — "Кніжны кіёск". У суботу, а 17-й гадзіне Маргарыта Прохар запрашае ў прамы эфір чарговага госця.

Вершы беларускіх паэтаў прагучаць у нядзелю, 6 красавіка, у праграме "Канцэртная зала".

## КАНАЛ «КУЛЬТУРА»

"КЛУБ ДАМАСЕДАЎ". Панядзелак—аўторак, у 11.00 — чарговыя літаратурныя чытанні, у чацвер у гэты ж час — праграма В. Макарэвіча "Натхненне".

"ЛІТАРАТУРНЫ АЎТОРАК" у "Сімфоніі дня" 1 красавіка прапануе наступныя сустрэчы: у 12.10 — "Дзеяслоў" Л. Рублеўскай, у 13.10 — "Таленты з глыбінкі" М. Прохар, у 14.10 — "Магія творчасці" З. Каваленкі, у 14.40 — "Сугалоссе" У. Дзюбы пазнаёміць з навелай Акутагавы Р'юноске "Павуцінка" ў перакладзе на беларускую мову У. Шатона, з 15.00 — "Ліставанні" І. Рыбіцкага, у якіх перапіска А. Талстога з С. Мілер, у 15.30 у "Паэтычным радыётэатры" — спектакль паводле дзіцячых вершаў Л. Пранчака "Цік-так, ходзікі". 16.10 — "Гаспода" Г. Шаблінскай, тэма "Смех у розніцу, або Майстры парадыйнага жанру" (паўтор у суботу, у 10.10).

А 17-й гадзіне ў аўторак — "З фондаў радыё" Радыёкампазіцыя па творах І. Тургенева. У пятніцу, 4 красавіка, — "З фондаў радыё" В. Шукшын, "Я прыйшоў даць вам волю".

Н. К.

---

• 14 сакавіка ў Доме літаратара прайшоў "круглы стол", прысвечаны абмеркаванню "Праекта змен у правапіс беларускай мовы", падрыхтаваны камісіяй пад кіраўніцтвам А.Падлужнага.У рабоце "стала" ўзялі ўдзел вядомыя мовазнаўцы, пісьменнікі, галоўныя рэдактары часопісаў "Роднае слова", "Дзеяслоў", тыднёвіка "Наша ніва".

З заўвагамі і прапановамі па змесце праекта выступілі: А. Каўрус, З. Саўка, П.Сцяцко, Ю. Бушлякоў, У. Содаль, А. Вярцінскі, В. Тарас, М. Скобла, М. Шавыркін і інш.

Па выніках абмеркавання была прынята адпаведная заява.

• 18 сакавіка адбылося пасяджэнне Бюро секцыі паэзіі. Была разгледжана творчасць А. Белавуса, А. Клемянок, І. Лагвіновіча, Н. Салодкай, Э. Усціновіч.

У абмеркаванні бралі ўдзел сябры секцыі: М. Шабовіч, В. Жуковіч, Л. Рублеўская, У. Паўлаў, В. Гардзей, Я. Малец, В. Слінко, А. Камоцкі і інш.

По выніках тайнага галасавання ўсе прэтэндэнты рэкамендаваны да ўступлення ў СБП. Вёў секцыю Э. Акулін.

• Пасяджэнне Бюро секцыі прозы прайшло 20 сакавіка. У працы секцыі ўзялі ўдзел: А. Масарэнка, Г. Багданава, П. Місько, А. Рыбак, Я. Конеў.

Рэкамендацыі да ўступлення ў СБП атрымалі: А. Андрэеў, І. Бабкоў, С. Галькевіч, Т. Габрусь, М. Южык. Вёў секцыю Б. Пятровіч.

ЯнАк





***Белавежская пушча — адзін з сімвалаў Беларусі, з яе лясамі, азёрамі і магутнымі зубрамі. У 1991 годзе яна стала для адных сімвалам разбурэння імперыі , для другіх — Галгофаю***





# ТУГА БЕЛАВЕЖСКАЙ ПУШЧЫ

***вялікай братняй дзяржавы. Але гэта адыходзіць на другі план, калі прыязджаеш сюды і апынаешся ў палоне спакою і прыгажосці.***

## ЗУБРЫНАЕ МАЛАКО

На ганаровай дошцы ў музеі прыроды — партрэты былых кіраўнікоў нацыянальнага парку. Адзін з іх — Сяргея Балюка. Пытаюся ў экскурсавода:

— А дзе цяпер Сяргей Сяргеевіч?

— Моцна хварэе, паралізаваны.

Амаль дзесяць гадоў назад я сустракаўся з ім — звольненым з працы, абвінавачаным у злоўжываннях. Тады зразумеў, што быць кіраўніком тут складана. С. Балюк амаль па кожным абвінаваўчым акце даведкі камісіі службы кантролю Адміністрацыі Прэзідэнта паціскаў плячыма: "А што я мог указваць начальству з Мінска?.." Яго было шкада. Як і самой пушчы, што стала шмат для каго крыніцаю ўласнага дабрабыту. Вось і зараз шум у СМІ: пілуюць тут, маўляў, дрэвы...

Здаўна Белавежская пушча была месцам палявання высокіх дзяржаўных асоб. Ладзілі пабоішчы літоўскія князі, польскія каралі, рускія цары. Так рабілі і савецкія лідэры. Леснікі абураліся паводзінамі нават Пятра Машэрава: "Не можам уявіць, навошта за вечар забіваць дзесятак кабаноў ці па семдзесят качак?!" Па загадзе П. Машэрава мяса аленяў, качак адвозілі на верталёце ў адмысловых скрынях. Каму? У якасці падарункаў замежным калегам. Пётр Міронавіч у свой час і назначыў Балюка дырэктарам пушчы. Той прымаў генсекаў, прэм'ераў, міністраў, а заадно "выбіваў" дапамогу для гаспадаркі, для раёна. Служыў, адным словам, сістэме.

Для гулянак пушча мела заўсёды адпаведныя ўмовы. Леснікі расказваюць шмат смешных гісторый. Адна мяне асабліва пацешыла. Неяк за чаркаю мінскія начальнікі захацелі паспытаць... зубрынага малака. Усё ўжо пакаштавалі — а вось гэтага не... Выклікае кіраўнік раёна ляснічага і кажа:

— Выкручвайся, як хочаш. Мне з іх грошы на будаўніцтва жылля трэба сарваць.

Лясны чалавек кемлівы. Выйшаў пушчанец у сені, наліў у збанок каровіных вяршкоў, разбавіў малаком і падаў гасцям. Тыя толькі пахвальвалі:

— Во гэта малако! А як зубрыху падаіць?

— Ды я сам гэтага не зраблю, — ляснічы ўжо баіцца, каб хаця госці "даярамі" не захацелі стаць. — Мяне зубрыха баіцца, а вось жонку падпускае. Яна звера хлебам пакорміць, а пасля ўжо доіць.

Самагон белавежскі паспытаць давялося і мне. Нічога сабе пітво. Дарэчы, у Мінску нядаўна адчынілася страўня "Талака", дзе падаюць самаробную гарэлку. Афіцыйны дазвол маюць. Пытаюся ў дырэктара Руслана Акунца: "І хто пастаўляе?" Што б вы думалі, з Белавежскай пушчы! Шануюць белавежскі "бімбар" і госці з суседніх брацкіх краін.

— Можа й на зуброў палююць?

— Не, хаця адстрэльваем некаторых.

Бяда — хворыя яны, лясныя волаты.

## ЧАМУ ДАША ПЛАЧА?

Пра хваробу зуброў гавораць ужо некалькі гадоў. Да гэтага часу ні адзін навуковец не вызначыў прыроду недамагання самцоў, якія з гадамі не могуць нават "схадзіць па малой патрэбе". Лічыцца, што гэтая хвароба — у генах зубра, жывёлы, бясспрэчна, не нашых дзён і якая засталася жыць толькі дзякуючы чалавеку. Ёмка пісаў С. Севярынец у кнізе "Зубр у Белавежскай пушчы" (1939 г.): "Пушча захавалася таму, што ў ёй жылі зубры, а зубры захаваліся таму, што была пушча". Можа, з-за гэтай хваробы ў статку зуброў і ўстаноўлены матрыярхат?..

Калі наконт матрыярхату, я, мабыць, "перагнуў палку", дык хвароба самцоў прыносіць ім нясцерпныя пакуты. Такіх звяроў проста адстрэльваюць. Хаця, на першы погляд, адстрэл зуброў выклікае адразу непаразуменне і нагадвае царскія паляванні.

У музеі прыроды нацыянальнага парку "Белавежская пушча" знаходзіцца зменшаная копія помніка бронзаваму зубру, узведзенага па загадзе Аляксандра II у гонар вясёлай забавы 1860 года. За два дні цар са світай забілі каля трыццаці веліканаў. Дарэчы, за год да гэтай сумнай падзеі ў пушчы налічвалася каля тысячы рэліктавых жывёл. А ў лютым 1919 года знішчылі апошнюю зубрыху. Для пушчанцаў прозвішча таго чалавека — Варфаламей Шпаковіч — асацыіруецца з Герастратам, хаця хацеў ён не славы, а зубрынага мяса.

Праз пару гадоў на міжнародным з'ездзе аховы прыроды было вырашана зберагчы жывёл за кошт зуброў, якіх некалі вывезлі і рассялілі па заапарках свету. Вырашылі трымаць іх у вальерах — абгароджаных месцах, дзе, з аднаго боку, звер знаходзіўся нібы на волі, з другога, — пад наглядам чалавека. Перад другой сусветнай вайной колькасць жывёл ужо дасягнула дзевятнаццаці асобін.

Пра іх ходзіць шмат легенд і казак, адну з якіх распавёў Уладзімір Караткевіч. У XIX стагоддзі нейкі шляхціц вяртаўся з гулянкі пушчанскаю дарогай. Быў нападпітку і заснуў у санях. Зубр падышоў, акуратненька падчапіў рагамі і выкаціў у снег. У таго хмель як рукою зняло. А зубр ішоў за санямі і еў сена. Шляхціц не адставаў, лаячыся:

— Жывагіна ты подлая! Карова ты халерная! Аддай, кажу! Апсік (як на ката)! Каб цябе самога так выкаціла, як ты мяне выкаціў...

Зубр з'еў сена і спакойна пайшоў у лес.

Увогуле ён на самай справе мірная жывёла. І хоць я зубрынага малака не каштаваў, але зубрыху хлебам карміў.

Воблік зубра ўсім вядомы, але мяне ўразілі вочы жывёл. Не наш погляд, не з нашага часу, цяпер так не глядзяць.

Жывуць у вальерах тарпаны, дзікі, ласі, алені, нават совы.

Яшчэ ў музеі прыроды пачуў:

— Можаце з ласіхай Дашаю паразмаўляць. Толькі не смейцеся — не любіць.

Загаварыў да яе. А тая як пайшла жаласліва рыкаць, дык не ведаў куды дзецца. Плача Даша, волі хоча.

Шкада і мядзведзяў. Не адчуваецца казачнай моцы, а вочы сумныя-



сумныя... Можа, сонныя? Можа, проста яшчэ не прачнуліся? Ды й чужыя яны тут, перавяліся яшчэ з 1878 г. А ў вальерах — "падарункі" ад кіраўнікоў розных рэгіёнаў СССР. Адзін з іх — ад міністра лясной гаспадаркі Башкірыі — цяпер цешыць вока ў выглядзе чучала ў музеі прыроды. Каля яго я й сфатаграфаваўся.

Пра ваўкоў у пушчы ўвогуле добрага слова не пачуеш. Калі я заікнуўся пра функцыі санітара лесу, пачуў:

— Ваўкі — фашысты. Думаеце, яны забіваюць хворых, слабых? Ага... Калі гоняць аленяў, дык выбіраюць самага дужага, каб мяса болей дасталося. У пушчы чалавек глядзіць за жывёламі, а воўк ніякай карысці не прыносіць.

Пра гэта расказаў ляснічы Уладзімір Сідарук, які з дзяцінства ведае лес і ягоных жыхароў.

— А каго са звяроў больш за ўсё шкадуеце?

— Аленя і казулю. Слабыя яны, безабаронныя.

А што ж з хваробаю зуброў рабіць? Патрабуецца новая кроў. Але чыя? Можа, бізона? Існуе і такая версія. Але ж можа не толькі матрыярхат у статку знікнуць, але й сам звер. Ды й ведае ўжо гісторыя вопыт стварэння "казлатураў". Калі мы ўжо прынялі госця з мінулага, дык няхай ён і ў будучыні застаецца.

# КАБ ВЕКАВЫ ЛЕС НЕ СТАЎ ДОМАМ САСТАРЭЛЫХ

— А лес ратаваць трэба...

Гэта сказаў Уладзімір Сідарук.

— Хадзем, пакажу...

Лес мяне з дзяцінства цягнуў да сябе і некаторыя моманты ягонага жыцця разумею, ды тут, аглядаючы дзялянку, нічога не заўважыў. Гляджу з непаразуменнем на ляснічага.

— Гляньце, як кусты абкусаныя, ды й галіны ў дрэў. А парасніку няма. Не вырастуць тут новыя дрэвы. З часам пушча можа стаць як дом састарэлых...

— Што ж рабіць?

— Звяроў задужа. Адных трэба перасяляць у іншыя месцы, другіх адстрэльваць. Быў бы лес, а звера ў ім развесці нескладана.

Аглядаю дзялянку і з жахам пачынаю разумець іх рацыю. Вось табе і векавы лес. Каб хаця яго век не стаў роўны чалавечаму.

— А хочаце — можам паспытаць зімовых грыбоў?

— Ну, скажаце!

— Яшчэ адзін Фама-няверуючы...

Высвятлілася — растуць тут зімовыя грыбы! Толькі на дрэвах. Зімовымі апенькамі называюцца. Іх спажываюць. Увогуле ў музеі прыроды можна налічыць 200 сартоў грыбоў. Калі агледзеў іх, разгубіўся: мне, заўзятаму грыбніку, няпроста вызначыць прыгодныя да ўжытку.

Лясы займаюць трэцюю частку нашай краіны. Гэта не магло не паўплываць на характар беларуса. Лес карміў, бараніў ад ворага, разам з ім і мучыліся. Цяжка ўявіць, колькі драўніны вывезена з пушчы.

Нейкім цудам засталіся некранутымі некалькі дубоў-волатаў. Каля аднаго з іх пачуў ад суразмоўцы:

— Гэты дуб можа замяніць любых прадказальнікаў, бо ў ім сканцэнтравана сонечная энергія стагоддзяў. Падыдзіце, упрыцеся пальцамі рук. Зараз будзеце адчуваць сябе значна лепей...

Я паслухаўся парады, усміхаючыся, але й верачы ў лекарскія здольнасці ляснога гіганта. І праўда, — пачуў сябе лепей. Увогуле ў Белавежскай пушчы расце 900 відаў раслін, дзве трэція з іх — лекавыя. І неабходна ўсё зрабіць, каб іх зберагчы.

...Зімовая пушча надзвычай прыгожая. Ад чыстага паветра, здаецца, можаш захлынуцца. І нават ведаючы тугу лесу, яго цяжкі лёс, хочацца ўсміхацца і радавацца. І вяртацца. Толькі не аднаму, а з сябрамі, дзецьмі. Каб падзяліцца пачуццём шчасця ад знаёмства з векавою прыгажосцю.

**Міхал ТАЛОЧКА**





# МЫ — БЕЛАРУСЫ!

Як горда, як пашанотна павінны гучаць два гэтыя словы ў сэрцы кожнага з нас! **Мы — нашчадкі слаўтага старажытнага славянскага роду, дзеці зямлі, што, нягледзячы на ўсе навалы, войны і катастрофы, якое ўжо стагоддзе корміць-поіць нас, і мы а б а в я з а н ы памятаць пра гэта.** Абавязаны — і перад продкамі, што не далі вынішчыць ні зямлі, ні мовы сваёй, і перад нашчадкамі, што ўзжадаюць і чыстае крынічнае вады, і чыстага, спеўнага слова беларускага, бо і ім, як нам, не жыць без гэтага...

Як пацвярджае шматвяковы вопыт, **ніякія і нічые ўказы і загады не ствараць нічога ні ў эканоміцы, ні ў культуры, калі грамадскасць — усе мы! — будзем абыякавымі і бяздзейснымі.** Усё — і ва ўласным дабрабыце, і ў дабрабыце нашай краіны — залежыць ад нас. Ад нашай адданасці сям'і, справе, Айчыне. Ад нашай упэўненасці ў сваёй сіле, у сваёй праваце. Ад нашай перакананасці ў сваім праве гучна, горда заявіць усяму свету: м ы — б е л а р у с ы!

Няхай жа акцыя па стварэнні кнігі "Мы — беларусы!" стане агульнанацыянальнай, агульнанароднай!

**Узгадайце род свой, азірніцеся на жыццё сваё, на ўсё, што выклікае ў душы пачуццё гонару, — і пішыце.**

Агульнымі нашымі намаганнямі кніга "Мы — беларусы!" пазначыць наша месца ў свеце і ў часе, былым і цяперашнім, стаўшы кропкай адліку для новага стагоддзя, для новага тысячагоддзя.

**Пішыце на адрас: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"; EMAIL: gazeta_lim@tut.by.**




20 сакавіка ў рэдакцыі "ЛіМа" зноў сустрэліся сябры суполкі маладых творцаў "Літаратурны квартал". Напярэдадні прайшоў семінар маладых літаратараў, удзельнікам якога былі многія кварталаўцы, таму было пра што пагаварыць, абмеркаваць. Вядома, гучалі новыя вершы, якія адразу ж падпадалі пад "крытычны прыцэл". У гаворцы бралі ўдзел Аксана Спрынчан, Усевалад Гарачка, Ягор Конеў, Святлана Кананові́ч, Наталля Дзянісава, Мікола Кандратаў, Ігар Клепікаў, Вікторыя Трэнас, Наталля Кучмель, Сяржук Мінскевіч, Сяргей Патаранскі, кіраўнік суполкі Людміла Рублеўская. Наступнае пасяджэнне будзе прысвечана абмеркаванню падборкі вершаў Міколы Кандратава.

Нагадваем, што сустрэчы кварталаўцаў адбываюцца кожны чацвер, а 18 гадзіне ў памяшканні рэдакцыі.

**ВЕЧАРЫНЫ**

# І ЛЁС, І ЎСПАМІН...

Пад такой назвай 18 сакавіка ў філіяле Літаратурнага музея М. Багдановіча "Беларуская хатка" адбыўся літаратурна-музычны вечар, прысвечаны 15-годдзю выхаду ў свет першага зборніка бібліятэчкі часопіса "Маладосць". У сустрэчы прымалі ўдзел: празаік Генрых Далідовіч, паэты Васіль Зуёнак, Леанід Дранько-Майсюк і Эдуард Акулін. Кожны з выступоўцаў выказаў цёплыя і шчырыя словы падзякі часопісу "Маладосць", які сёлета адзначае свой 50-гадовы юбілей. З выступленняў былых галоўных рэдактараў часопіса В. Зуёнка (узначальваў рэдакцыю з 1978 па 1982) і Г. Далідовіча (з 1991 па 2001 г.) прысутныя даведаліся пра самыя значныя, цікавыя і яскравыя старонкі жыцця "Маладосці" — публікацыі рамана Уладзіміра Караткевіча "Чорны замак Альшанскі", успамінаў Ларысы Геніюш і Адама Багдановіча, гістарычнага нарыса Міколы Ермаловіча "Старажытная Беларусь" і шмат іншых цікавых твораў беларускіх аўтараў.

Яшчэ адной з цікавых тэм, якія закранулі на вечарыне, была тэма незалежнага таварыства маладых беларускіх паэтаў "Тутэйшыя", якое існавала ў 1987—1990-х гг. і налічвала ў сваіх радах каля 80-ці чалавек. Яны ўдзельнічалі ў мерапрыемствах у падтрымку беларускай культуры, мовы, экалагічных акцыях, праводзілі літаратурныя вечарыны і інш. Творы членаў таварыства былі сабраныя ў зборніку "Тутэйшыя", які выйшаў у выдавецтве "Мастацкая літаратура" у 1989 годзе. Яго рэдагаваў Леанід Дранько-Майсюк, які і распавёў пра працу, звязаную з выданнем гэтага зборніка.

У гэты вечар прагучалі вершы маладых паэтаў Таццяны Сівец, Святланы Багданкевіч, Святланы Дальчанінай і песні ў выкананні Валерыя Куставай.

**Таццяна ШЭЛЯГОВІЧ,**
**загадчыца філіяла**
**Літаратурнага музея М. Багдановіча "Беларуская хатка"**

НАЎЗДАГОН

# ПАМІЖ ЎРАЖАННЕМ І КРЫТЫКАЙ

Крытыкаваць лягчэй за ўсё — найбольш распаўсюджанае меркаванне і памылковае ўражанне многіх чытачоў і, на вялікі жаль, тых, хто пачувае сябе крытыкамі. Мы часта і многа гаворым аб прафесійнасці і стылі пісьменніка, але рэдка ўспамінаем пра гэтыя якасці адносна крытыка.

Нумар "ЛіМа" ад 14 сакавіка, дзе на развароце змешчаны крытычныя творы С. Верацілы, Г. Кісліцынай, П. Прыходзькі і С. Патаранскага, дае падставу для роздуму над сутнасцю і змястоўнасцю крытыкі.

Пад не надта арыгінальнай назвай "Паэтычны раман Леаніда Дранько-Майсюка" хаваецца спроба С. Верацілы пранікнуць у глыбіню "Паэтаграфічнага рамана". Трэба сказаць, што, "прымяраючы" на сябе "вобраз" крытыка, С. Вераціла застаецца паэтам. Яго рэцэнзія ўяўляе сабой плынь свядомасці. Такое ўражанне, што крытык размаўляе не з чытачом, а гутарыць сам з сабой. Прынамсі, некаторыя выказванні зразумелыя толькі яму аднаму, напрыклад: "Але так ужо кажа і загадвае традыцыя нашай літаратуры, што вобразы нашых паэтаў, гэта, калі хочаце, вусная квазілітаратурная творчасць (памяць?) фіксуе шмат прыкладаў, калі нашыя славутасці ачалавечваюцца". Шкада, што тут жа не даецца ніводнага прыкладу ачалавечвання якой-небудзь славутасці!

Не надаюць яснасці думцы і стылю бясконцыя ваганні кшталту: "Ведаю і я, што віною доўгай ростані былі сябры, якіх магло і не быць, бо іх усё-ткі выбіраюць (ці ўсё ж не выбіраюць?)". Кінуўшы Л. Дранько-Майсюку неабгрунтаваны папрок у несапраўднасці яго вершаў, С. Вераціла адзначыў: "І ў гэтым няма ніякае крыўды, хаця можа і ёсць..." Але вяршыняй яго "крытычнай няўпэўненасці" з'яўляецца, на маю думку, наступная фраза: "...я можа быць, як заўсёды, не маю рацыі". Навошта тады ўвогуле трэба было пісаць? Аднак, самае горшае, што, азнаёміўшыся з дастаткова сумбурнай рэцэнзіяй С. Верацілы, чытач наўрад ці зразумее, што ж гэта за "Паэтаграфічны раман" Л. Дранько-Майсюка. Добра, што ніжэй змешчаны прафесійны аналіз той самай кнігі ў выкананні Ганны Кісліцынай, які мае вобразную назву "Залатое смецце".

Менавіта вобразнасць разам з лёгкасцю і нязмушанасцю мовы, са стройнасцю пабудовы кожнай фразы і дакладнасцю выказанай думкі з'яўляюцца галоўнымі рысамі стылю Г. Кісліцынай. Пасля грунтоўнага аналізу кнігі яна нават зрабіла аўтару камплімент, назваўшы Л. Дранько-Майсюка "паэтам-казановай, які так хвалюе беларускіх чытэльніц" і адзначыла яго "мілае мужчынскае какецтва, даравальнае за добрые вершы".

"Нектар для паэтычнага мёду" — артыкул П. Прыходзькі. Аповед пра "Глыбока лірычную паэзію", якая цешыць яго "Старэчае сэрца і розум", дапаўняецца безумоўна слушнымі развагамі пра беларускую эстраду, дзе ёсць — заўважу — пэўная недакладнасць выказанай думкі, якая можа выклікаць непаразуменне: "Кажучы пра нашу эстраду і яе сувязь з паэзіяй, нельга не прыгадаць цудоўнага рускага акцёра і спевака Уладзіміра Сямёнавіча Высоцкага..." У цэлым жа артыкул роўны. Заўважаецца таксама суб'ектыўнасць у ацэнцы паэзіі, што, аднак, стасуецца з рубрыкай "Уражанне", пад якой друкуюцца нататкі.

Павярхоўнасць — асноўная адметнасць крытычнай творчасці Сяргея Патаранскага, які аналізуе паэтычны зборнік Вольгі Базылёвай "Крылы ў шафе". Абсалютна правамерна С. Патаранскі пачынае свой аналіз з назвы кнігі, але не надае належнай увагі назве ўласнага артыкула — "Крылы для палёту" — А для чаго ж яшчэ? — гучыць спрошчана і банальна.

Заўважыўшы, што адным з найбольш характэрных для паэзіі В. Базылёвай вобразаў з'яўляецца трамвай і, прыгадаўшы з гэтай нагоды М. Гумілёва, С. Патаранскі адзначае: "Зразумеўшы прыроду вобразнасці паэта, нельга не сказаць пра горад...". Можа, крытык сам і зразумеў гэта, але не раскрыў сутнасць вобразнасці чытачу. Ці трамвай — гэта ўся вобразнасць? Далей, узгадаўшы горад у паэзіі В. Базылёвай, ён прыводзіць далёка не самы характэрны і значны прыклад, называючы яго пераканаўчым. Ну а заканчваецца гэта кароткая рэцэнзія надзвычай трафарэтнай фразай: "Гэта радуе і дае спадзеў на новыя выбітныя сустрэчы з сучаснай беларускай паэзіяй". У рэшце рэшт, тая "стракатая палітра паэтычнага сусвету Вольгі Базылёвай", пра якую гаворыць С. Патаранскі, застаецца амаль не раскрытай, хутчэй толькі закранутай, бо крытыку бракуе ці то цярплівасці ў аналізе твораў, ці то глыбіні іх разумення.

Такім чынам, суадносіны прафесійнай і непрафесійнай крытыкі, баюся, не на карысць нашай літаратуры — адзін да трох. Сумна!

Наталля ДЗЯНІСАВА



***Дзякаваць Богу, яшчэ існуюць на зямлі паэты ў наш жорсткі, прагматычны, пазбаўлены ўсялякае сентыментальнасці час. І сапраўды, ці ж да сантыментаў абсалютнай большасці нашых суайчыннікаў, для якіх усе пякноты свету заслоненыя даволі празаічным клопатам пра хлеб штодзённы, разумеючы яго не ў вузкім сэнсе, а больш шырока, г. зн. клопатам пра ўсё, што забяспечвае больш-менш прыстойнае існаванне, не кажучы ўжо пра існаванне дастойнае. Шмат хто цяпер мітусіцца ў жыццёвым коле, каб усімі праўдамі і няпраўдамі ўбіцца на гэты хлеб, які часцяком бывае і горкі, і чэрствы. Пры гэтым па-за колавымі межамі апынаецца ўсякае нават самае малое, ледзь бачнае імкненне да пяшчоты і прыгажосці, гасіцца прарыў праз мітусню і бізнесовасць да ўласнае душы.***

Што рабіць паэту ў наш меркантыльны час, калі сама паэзія вынесена па-за кантэкст жыцця?

*Кто камень катит вверх —*
*сорвется!*
*(Чем ближе к цели, тем больней!)*
*Никто на крик не отзовется...*
*И нет просвета в чаще дней.*

*Вот мертвечина из тумана*
*Скрипит, ползет,*
*бормочет вздор...*
*И жизнь — из связного романа*
*Опять — в рассыпанный набор.*

Так, самое жыццё за вокнамі нашых хат амаль штодзённа падносіць падобныя прыгнятальныя факты, калі ніхто не адгукаецца на крык аб дапамозе ў пад'ездзе або на вуліцы ў той час, калі падлеткі, выхаваныя нашым

сваёй жаночай сутнасці, здаецца мае права на звыш эмацыянальнае ўспрыманне свету. Аднак гэтай здрадніцкай вільготнасці ў вачах, гэтай заслоны, якая робіць усё бачнае туманным і расплывістым, у яе апошняй кнізе "Ускользающее чудо", выдадзенай у Мінску ў 2002 годзе, няшмат. Перад намі надзвычай мужны паэт, у чыёй жаночай постаці пяшчотнасць спалучаецца з мужным характарам, крохкая ранімасць — з цвёрдасцю неадольнага духу.

Але ўстаяць пад ударамі лёсу і неміласэрнай да чалавека гістарычнай рэальнасцю зусім няпроста. Ці кожнаму паэту гэта па сіле, тым болей жанчыне? Ці пад сілу кожнаму гэта пачуццё страты духоўнай і родавай апоры?

*Поезд застыл, вокзал поехал.*

ся, а далёкае — наблізілася. Празрысцей зрабіліся межы, якія падзяляюць наш і "іхні" свет, вядомы раней шмат каму з нас выключна па кнігах і кінафільмах. І вось ужо мы маем магчымасць разам з Любоўю Турбінай усклікнуць: "О тихий Амстердам!" Ці разам з паэтам выбраць з глянцавых адбіткаў нядаўняй турпаездкі, напрыклад, вось гэта:

*Мне чудно помнятся*
*глубокие вокзалы*
*И дом среди кустов*
*сплетающихся роз.*
*Усталый Нотр-Дам,*
*где музыка звучала*
*И трогала до слез.*




# ЗАХАВАНАЕ СЛОВА

тэлебачаннем у бязлітаснасці, збіваюць на горкі яблык чалавека толькі за тое, што ў яго няма цыгарэт. А магчыма, што й забіваюць. І наша ўласная боязь за саміх сябе змушае нас шчыльней зачыняць дзверы, форткі і забіваць вушы тэлевізійнай забаўлянкай, у той час калі і там, на экране, тая ж самая бойка, тая ж кроў, толькі што пададзеныя праз аб'ектыў і тэлевічаў... — тэленавіцей, і вынаходлівей, — а таму бачацца яшчэ жудасней, чым рэальныя...

Як існаваць паэту ў гэтым густым і непралазным гушчары бязрадасных дзён? У плыні дзён, якія цякуць няспрымна, як вада скрозь пальцы?

*Утекающее время я кляну*
*и плачу слезно,*
*Все от холода застыло,*
*сердце в горечи — беда...*
*Тяжко бремя ожиданья,*
*тьма густа,*
*но небо звездно.*
*Что случается однажды —*
*происходит навсегда.*

Не, не можа паэт затаіцца ад гэтага халоднага часу, ад якога стыне сэрца, ні каля цёплага камінка ўспамінаў, ні каля супермоднага коміна абывацельскага снабізму і бесклапотнасці:

*Утекающее время я кляну*
*и плачу слезно...*

Як гэта перагукваецца з пушкінскім:

*И горько жалуюсь,*
*и горько слезы лью,*
*Но строк печальных не смываю.*

Плач, слёзы як, магчыма, самая першая і вывераная рэфлексія на абыякавасць страшнага часу, на ўласны неласкавы лёс, на крыўду ад тых, каму давяраў сэрца...

Любоў Турбіна, чые цудоўныя вершы сталіся нагодаю, з якой і напісаўся гэты артыкул, ужо зыходзячы са

*Это земля течет под ногами.*
*Крикнешь — куда? —*
*но не слышно эха:*
*Это Родина расстается с нами.*

Так, нас пакінула наша цудоўная шматнацыянальная Радзіма, дзе адчуванне локця выключала нацыянальную таўханіну, дзе бязмежная прастора выклікала ў цябе ганарлівае пачуццё прыналежнасці і да гэтай прасторы, і да гэтай дружнай сям'і народаў. Так, безумоўна, што не ўсё ладзілася ў гэтай сям'і, не ўсё было цудоўна ў нашым інтэрнацэ, які называўся СССР. Гулагаўская зона праглядвалася праз усе нашы дасягненні і перамогі, але ж мы былі першапраходцамі на шляху да агульналюдскай лучнасці... Бакінскі універсітэт, і Вільня, дзе "темной Нерис струится река", фантан у старой Рызе і ноч у Краснаводску, і той край зямлі, што "Азией зовется", — у гэтую геаграфічную прастору паэткі арганічна ўваходзяць таксама ваенная Масква з маладымі бацькамі, якія гасілі фашыстоўскія фугасы, пасляваенне ленінградскае дзяцінства і, нарэшце, гады творчай сталасці, звязаныя з Мінскам, які Любоў Турбіна назвала яшчэ 14 гадоў таму "горадам кахання":

*И вот что во сне приключилось*
*со мной —*
*Родительский дом обошла*
*стороной.*
*Вдоль Свислочи дом, возле парка,*
*И окна, горящие ярко.*
*А улица тихо вплывала во мглу...*

*Тот розовый каменный дом*
*на углу*
*На улице Янки Купалы*
*И голос: "Ну где ты пропала?"*

Відавочна, што наша рэальнасць зараз дастаткова абсурдная: магчымае раней сталася немагчымым, а неверагоднае — верагодным і даступным. Бліжняе замежжа аддаліла-

Ці засяродзіцца на гэтым успаміне:

*И по Софии гуляю по ночам,*
*Ветер волосы раскинул*
*по плечам...*

Як бачым, лірыка Любові Турбіной дастаткова працяглая, і за гарызонтам яе, як няцяжка здагадацца, шмат засвоена аўтарам і з цікаўнасці, і па законах духоўнай роднасці. Але ёсць яшчэ адно, самае важнае вымярэнне яе паэзіі — вертыкаль лёсу, духоўнага выспявання. Менавіта пра духоўную сталасць паэта сведчыць кожным сваім радком і выніковы зборнік Л. Турбіной. Ён гаворыць нам пра тое, што менавіта зараз паэт перажывае той перыяд свайго жыцця, калі яно шырока бачна яму з розных бакоў і ёсць што чэрпаць з ягоных глыбінь, паколькі гэтыя глыбіні ёю дасягнуты.

*Жизнь в предчувствии тайного дара*
*Манит в гущу событий и лиц...*
*Бедный князь — мой двойник —*
*с узелком из футляра*
*Отпустил меня с книжных страниц.*

Гэтак з падлеткавых гадоў у пошуках духоўных скарбаў свядомасць паэта абапіраецца на родную літаратуру. Менавіта таму адзін з самых прывабных герояў Дастаеўскага, хай у іншай, мужчынскай іпастасі, робіцца як бы аўтарскім двайніком. Так нараджаецца літаратурная падкладка лірыкі Любові Турбіной. Гэта і вершы, прысвечаныя тургенеўскаму Рудзіну, які гіне ўжо ў наш час каля сцен Белага дома ў Маскве, і верш "Экзамен па літаратуры" з катэгарычнай просьбаю да Льва Мікалаевіча:

*Ну поженил бы Николеньку*
*с Сонею,*
*Стольких бы не было бед!*

Літаратурную аснову мае і верш "Анюта" на сцэне Вялікага тэатра, па-

колькі гэты балет на музыку В. Гаўрыліна ўзнік як музычна-пластычны аналаг вядомай чэхаўскай аповесці "Анна на шее". Увогуле ў вершах Любові Турбіной гучыць увесь антураж класічна адукаванага аўтара: Саламон і Суламіф, Нізамі і Скарына, ладдзя Харона і "психея, бабочка, любовь"...

Ці добра гэта?

Яшчэ зусім нядаўна, за савецкім часам, паэты ўсяляк маскіравалі літаратурную першакрыніцу ўласнае творчасці. Папрокі ў кніжнасці, літаратуршчыне, як Дамоклаў меч, віселі над кожным, хто адважваўся на ўпамінанне літаратурнай рэаліі. Лічылася, што само жыццё — невычэрпны калодзеж тэм і вобразаў, а літаратурныя рэаліі сведчаць толькі пра слабую сувязь аўтара з жыццём.

Аднак час ідзе, зміняюцца і адносіны да тых словаў-сімвалаў, якія падключаюць той ці іншы верш да кантэксту шматвекавой сусветнай культуры і ставяць у адну шарэнгу з творцамі глыбокай старажытнасці, як гэта здарылася і з творчасцю Любові Турбіной. Вертыкаль лёсу узносіць яе на вышыню для палёту. І што там аказваецца ўнізе — пасярод пераадоленага і перажытага? — Не толькі рэаліі фізічнага і духоўнага сталення, не толькі даты страт і здабыткаў, але і сумны вопыт спадзяванняў і крушэнняў на плошчах і ў завулках "горада кахання". Уласна кажучы, уся паэзія Любові Турбіной — гэта гарачая споведзь сэрца. Каму спавядаецца аўтар? Дык табе ж, паважаны чытач! І яшчэ — часу і Богу.

*"Люблю" — ты не сгинешь*
*безвестным во мраке!*
*Плывут облаков*
*торжествующих флаги,*
*Не листья опавшие —*
*праздничный хлам —*
*Все золото мира ложится к ногам.*

І ўсё ж, дзе яна, гэта галоўная нота, якая вызначае ўсё поліфанічнае гучанне зборніка? Таму што, калі яе няма, гармонія развальваецца на мелодыю і акорды рознай танальнасці, якія дысануюць адно з адным. На шчасце, яна ёсць!

*Грешно спасаться в одиночку...*
*Когда исполнятся все сроки —*
*Дай Бог одну припомнить строчку*
*И не споткнуться на пороге.*

Так, выславіць уласны радок, як сведчанне свайго існавання на зямлі ў гэты складаны час, існавання жаданага, пакутнага, але і творча апраўданага, перастворанага ў рыфмаваны вопыт сэрца.

Заканамерна, што ў зборніку Любові Турбіной знаходзяцца побач, у адпаведнасці з законам духоўнай блізкасці, уласныя вершы і вершы, перакладзеныя з іншых моў; французская паэзія пазамінулага стагоддзя (Стэфан Малармэ, Поль Верлен, Шарль Бадлер), верш з Эдгара По і паэзія беларуская, прадстаўленая імёнамі Міхася Стральцова і Леаніда Дранько-Майсюка.

Гэта новая іпастась творчай асобы паэта яшчэ раз сведчыць пра шырыню яе паэтычнага таленту, які шукае блізкай танальнасці ў паэзіі іншых народаў і робіць яе адкрытай для ўсіх, хто ёю зацікавіцца.

Падсумоўваючы ўсё выказанае пра новую кнігу паэта, неабходна прызнаць: размова з чытачом без усялякіх хітрыкаў, без імкнення паказаць сябе лепшай, чым ёсць, адбылася. Паэтычны лёс здзейсніўся, малітва даслана ў неба.

Любоў Турбіна дачакалася свайго запаветнага імгнення і яе паэтычнае слова прыходзіць да чытача паўнакроўным і сталым, выспелым пад знешнім покрывам маўчання.

**Георгій КІСЯЛЁЎ,**
**г. Ваўкавыск**

**УРАЖАННЕ**

***Даўно ўжо за Маладзечнам замацаваўся некаранаваны статус паўночнай сталіцы Беларусі. Адтуль ішлі і ідуць беларускія ідэі, нацыянальныя пражэкты. Гэта горад музыкі, горад мастакоў, даследчыкаў і выдаўцоў. Маладзечна выдае адмысловую "Рэгіянальную газету". У Маладзечне ж выходзіць ужо каторы год самабытны часопіс "Куфэрак Віленшчыны". Гэта жаданы часопіс. Яго знаўцы заўсёды чакаюць. Ведаюць, ён прынясе сваім чытачам штось новае, дагэтуль невядомае, і тым самым падсілкуе дух тых, хто прагне спазнання краю, ягоных людзей, мінулага і будучыні Беларусі.***




# СУСТРЭЧА З ЗОСЬКАЙ ВЕРАС

Чарговы нумар "Куфэрка" прысвечаны вядомай беларускай дзеячцы — сучасніцы Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Аляксандра Уласава — Зосьцы Верас з роду Сівіцкіх. Камукаму, а мне, як аднаму з тых, хто цягам не адзін год чэрпаў з памяці Зоські Верас найцікавейшыя звесткі з жыцця беларусаў ад пачатку дваццатага стагоддзя, усе публікацкі ў "Куфэрку" пра колішнюю гаспадыню падвіленскай лясной хаткі сталіся яшчэ адной незабыўнай стрэчай з ёй. От лісты Зоські Верас да Сяргея Панізніка і Генадзя Каханоўскага. У іх я шукаў найперш чагось мне невядомага, нязнанага. Шукаў адкрыццяў. І я іх знаходзіў. Мне, прыкладам, цікава, што бацька Людвікі Сівіцкай лічыў сябе *літвінам, літвіном*. Мне наогул хочацца скласці спіс старых і знаных беларусаў, якія разам з Адамам Міцкевічам лічылі сябе літвінамі, за літвінаў. Цікава таксама было прасачыць, як Зоська Верас, дачка царскага вайскоўца, прыйшла да беларушчыны. З яе біяграфіі, змешчанай у "Куфэрку", даведаўся, што ў сярэдзіне лета 1906 года ёй першы раз трапілі ў рукі кнігі Францішка Багушэвіча "Дудка беларуская" ды "Смык беларускі". Яны-то, як і шмат каму іншаму, сказалі ёй, што яна — беларуска, а люд, які жыве на ўсім тутэйшым абшары, — беларусы. От яе асабістае ўражанне пра тыя кніжкі:

"У 1906 годзе летам першы раз трапілі мне ў рукі "Наша Ніва", "Дудка беларуская" і "Смык".

Наколькі яны мяне ўразілі і спадабаліся, відаць з таго, што ў клясовай працы з польскай мовы "Charakterystika Litwy" я старалася выясьніць розьніцу між літвінамі і беларусамі і праводзіла як доказ асобнай беларускай мовы "Нашу Ніву", "Дудку" і "Смык". Разумеецца, зроблена гэта было па-дзіцячаму. А ўсё ж..."

А затым, у 1910 годзе, вучоба ў адной гімназіі з унукам Мацея Бурачка — Зыгмунтам Абрамовічам. *Разам з Зыгмусем* яна ствapала гуртковую беларускую бібліятэку. І зноў жа тая бібліятэка засноўвалася з Багушэвічавых кніг. Былі абодва кніганошамі. Разам ладзілі вечарыны. Першая адбылася 19 лютага 1910 года. У Зоські Верас ацалела праграма той вечарыны. На той вечарыне, як відаць з праграмы, не абышлі ўвагаю і Багушэвічавы творы.

Так што Зоська Верас паспела за іншымі можа з поўным правам паўтарыць: "Усе мы выйшлі з Багушэвіча!" І гэтае прызнанне шматзначнае.

Уражваюць у лістах Зоські Верас розныя яе трывогі, засцярогі. От адна з іх, з ліста да Генадзя Каханоўскага: "Пазаўчора быў на мяне сапраўдны налёт. Прыехалі з Менску: Г. Сагановіч, з жонкаю, Алесь Буркоў — студэнт і аднаначасна М. І. Ермаловіч. Я яго і не пазнала. А яго вочы, што за гора-няшчасьце. І як жа Ён не баіцца ездзіцьхадзіць? Гэта ж так небясьпечна! Аж душа за яго баліць!" Гэтая Зосьчына трывога з яе ліста за 22-га сакавіка 1988 года. І была яна недарэмная. Тое, што затрывожыла Зоську Верас у 1988 годзе, здарылася ў сакавіку 2000 года.

Вядомы мовазнаўца Хведар Янкоўскі таксама ліставаўся з Зоськаю Верас. Ён называў жыхарку лясной падвіленскай хаткі *за яе клопат і трывогі за нас* усіхняй беларускай бабкай.

Багатая ў "Куфэрку" і іканаграфічная спадчына Зоські Верас. Шмат якія яе фотаздымкі рэпрадуктаваны ўпершыню. Сярод іх — Зоська Верас у кампаніі з Рамуальдам Зямкевічам і Гальяшам Леўчыкам. За гэтым здымкам якаясь цікавая гісторыя. Шкада, што ніхто з нас, з тых, хто наведваў Зоську Верас, не распытаўся пра гісторыю гэтага здымка.

Кранае душу і малюначак лясной хаткі Зоські Верас. У "Куфэрку" яна сціпшаная, заснежаная, прытоеная. Вокал ні душы, але мы ведаем: дзесь за сценамі гэтае лясной хаткі колісь тупала казачная яе жыхарка Зоська Верас з сваімі клопатамі пра нас, пра сям'ю, пра Беларусь. З іншых публікатак "Куфэрка" кранулі мяне нататкі пра Генадзя Равенскага — сціплага працаўніка і даследчыка нашай духоўнай спадчыны, *якім кіравала адно толькі святое жаданне:* не дапусціць людскога забыцця гэтай спадчыны.

Я быў трохі знаёмы з Генадзем. Гэта ён мне аднойчы паведаміў, што поблізу Першаёў ацалела колішняя лесьнічоўка Раман, у якой колісь пэўны час кватаравала сям'я Яна Лявіцкага. Гэтае адкрыццё дало адказ, як сын Яна Лявіцкага Антось патрапіў у школку В. Дуніна-Марцінкевіча ў Люцінцы. Тады ж я, згадваецца, наведаў гэты маляўнічы кут ля Першаёў і зняў тэленарыс пра згаданую лесьнічоўку.

Публікатка пра Генадзя Равенскага нагадала мне і пра сядзібу Дуніна-Марцінкевіча, *пра мой святы абавязак* напісаць кніжачку пра Марцінкевічаў кут. А я для гэтага маю ўсё. Застаецца толькі зладзіць усё намножанае ў сістэму.

Перакананы, знойдуць свайго чытача і іншыя публікаткі сёмага выпуску "Куфэрка" — пра мастакоў Кастуся Харашэвіча, Алега Аблажэя, гісторыка Вацлава Пануцэвіча, успаміны пра Міколу Ермаловіча.

Знайшлі выдаўцы "Куфэрка" колькі старонак і для нашай літаратурнай будучыні — юных талентаў з Залесся Агінскага. Гэты клопат выдаўцоў пра нашу будучыню кранае.

Асабіста мяне зацікавіла і публікатка Міхася Казлоўскага пра маладзечанскага кнігара Міхася Станкевіча. Я даўно мрою напісаць гісторыю беларускіх кнігарняў. Намножаны для гэтага ўжо немалы матэрыял. І от яшчэ адна старонка з гэтай гісторыі. У сёмым нумары "Куфэрка" шмат іншых цікавых публікатак. Нецікавых тут не бывае. Але, паўтаруся, чарговы, сёмы нумар "Куфэрка" пераважна прысвечаны нашай легендзе мінулых стагоддзяў Зосьцы Верас.

Будзем *спадзявацца, "Куфэрак" пра*цягне друкаваць ліставанне Зоські Верас з іншымі нашымі руплівцамі. У гэтых лістах з ёю наша гісторыя, яе штрыхі і штрышкі.

**Уладзімір СОДАЛЬ**

# СВОЙ ПАЧАТАК

У кожнага паэта свой лёс, свая таямніца, свой пачатак.

Аднойчы яна патэлефанавала мне і ўсхваляваным, трапяткім голасам паведаміла: "Рыма Аляксандраўна, са мною здарылася нешта дзіўное, нешта фантастычнае — я пачала раптам пісаць вершы, і не проста пісаць,а яны нібыта ліюцца з маёй душы, нібыта іх нехта дыктуе. Вось толькі не ведаю, ці добрыя гэта вершы ці не? Можна я вам па тэлефоне некаторыя прачытаю?.."

Я згадзілася. Вершы мне спадабаліся, і хоць сама я не паэт, іх лірычнасць адразу запала мне ў душу. Абавязкова пішыце — параіла я, відаць, талент нейкім цудам прачнуўся і патрабуе выхаду.

Надзея з гэтым пагадзілася. "Я і сама так думаю!" — сказала яна. Мне было радасна, што яшчэ адзін творчы чалавек, яшчэ адзін паэт нарадзіўся на Зямлі.

Пазнаёміліся мы з Н. Стаховіч таксама пры незвычайных абставінах... Калі споўнілася 90 год з дня нараджэння майго бацькі, у маёй кватэры пачуўся тэлефонны званок, і Надзея Стаховіч запрасіла мяне і майго старэйшага брата Алега ў Оршу на святкаванне юбілею бацькі, здзейсненага ве намаганнямі з такой любоўю і самаадданасцю, з такой глыбокай павагай да майго бацькі і да яго таленту, з такім шчырым клопатам да кожнай дробязі, што я не забуду гэтага да канца свайго жыцця. Наша ўдзячнасць ёй проста не мае межаў. Хто б яшчэ мог зрабіць такое?! Нягледзячы ні на якія тэорыі бесканфліктнасці і прыхарошванне сялянскага жыцця, вядаць доўг памяці свайку і таленавітаму беларускаму пісьменніку!.. Запрасіць акцёраў, народны ансамбль і ўскалыхнуць зямлю, хутар, дзе нарадзіўся Алесь Стаховіч, улюбёнымі ягонымі песнямі!..

Гэтая дабрыня Надзеі Канстанцінаўны, душэўная тонкасць і шчодрасць, далікатнасць, узнёсласць і паэтычнасць адчуваюцца і ў яе паэзіі. Яна любіць жыццё і людзей, любіць сваю Бацькаўшчыну, прапускае ўсё праз сваё сэрца. Паэзія, сабраная пад вокладкай яе кніжкі "В моем имени, в твоем отечестве" хвалюе кожнага чытача:

*І сэрца ў роспачы заб'ецца —*
*Не адшукаць адной мяжы.*
*І сумна музыка ліецца*
*На ціхі боль маёй душы.*

А нядаўна ў Доме літаратара адбылася прэзентацыя першай кнігі вершаў паэткі з Оршы Надзеі Стаховіч "В моем имени, в твоем отечестве". Прысутныя з




цеплынёй выказваліся пра яе творы. Вяла вечарыну В. Іпатава. З разглядам твораў Н. Стаховіч выступілі А. Петрашкевіч, А. Рыбак, К. Цвірка, Э. Ялугін, Г. Дзягілева. На свята выхаду кнігі Н. Стаховіч прыехалі і прадстаўнікі Аршанскага раёна, якія сардэчна віталі сваю зямлячку.

**Р. СТАХОВІЧ-ЛАРЧАНКА**

# ВЫСОКІМ ПАРЫВАННЯМ ПРОДКАЎ ПРЫСВЯЧАЕ

У серыі "Беларускі гістарычны раман" сёлета выйшла кніга празаіка, публіцыста і драматурга Васіля Якавенкі "Надлом". Аўтар прысвяціў яе трагедыі і драме беларускага нацыянальнага адраджэння. Сярод персанажаў твора многа рэальных гістарычных асоб. У цэнтры ўвагі пісьменніка — сям'я Пятра Пісарчука, жыхара заходнебеларускага мястэчка Моталь. Лёс пакаленняў раскрываецца праз лёсы яго сыноў і ўнучкі Марыі. XX стагоддзе паўстае перад чытачом у мностве вобразаў і асоб. Раман-эпапея В. Якавенкі, падобных якому даўно не было ў беларускай літаратуры, напісаны надзвычай грунтоўна. У ім шмат мастацкіх апісанняў прыроды, душэўнага стану герояў, гістарычных падзей. Мова




твора заслугоўвае асобнай увагі сваім багаццем і разнастайнасцю. Вобразы дзейных асоб атрымаліся псіхалагічна дакладнымі, праўдзівымі. Раман мае рысы прыгодніцкага і гістарычнага адначасова. Чытаецца ён цікава, твор гэты глыбокі і, можна сказаць, нават эпахальны. Адрасаваны ён усім, каго натхняюць старонкі роднай гісторыі, — выкладчыкам і студэнтам, літаратарам, навукоўцам. Магчыма, гэты раман будзе для многіх рэальным адкрыццём у тым, што датычыць праблем асвятлення і ўспрымання гістарычных падзей.

С. Я.

# НАРАДЗІЎСЯ НА МАГІЛЁЎШЧЫНЕ

20 сакавіка адзначыў свой паўвекавы юбілей празаік і драматург Уладзімір Бутрамееў. Ён піша на рускай і беларускай мовах, аўтар апавяданняў, аповесцей і п'ес. Выдаў некалькі кніг. У цэнтры ўвагі пісьменніка — жыццё вёскі, школьныя падзеі, узаемадачыненні настаўнікаў з вучнямі. Сярод п'ес, якія зрабілі У. Бутрамеева вядомым, — "Размовы па-суседску", "Ізноў Несцерка", "Страсці па Аўдзею" ("Крык на хутары", пастаўлена ў 1989 годзе Нацыянальным Акадэмічным тэатрам імя Я. Купалы). Па матывах беларускага фальклору напісана аповесць У. Бутрамеева "Дзе свята, там і я, або Казкабайка пра тое, як жыў, па свеце цягаўся, памёр і жывы застаўся лоўкі мужык Янка" (яе інсцэніравалі студэнты Беларускага універсітэта культуры).

Паводле сваёй адукацыі Уладзімір Бутрамееў — педагог. Скончыў геафак Магілёўскага педінстытута, працаваў настаўнікам. Атрымаў спецыяльнасць кінадраматурга, вучыўся на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве, аддаў шмат гадоў свайго жыцця Беларускаму тэлебачанню.

Рэдакцыя "ЛіМа" віншуе юбіляра і зычыць яму далейшых творчых поспехаў.

С. Я.



Міхась ПАЗНЯКОЎ



## МНЕ ВАС ШКАДА... Я ВАМ ПАДАМ РУКУ...

•

*Лёс крутануў убок упарта,*
*Пайшло, паехала не так.*
*Забедаваць,*
*здаецца, варта,*
*А я ўсміхаюся аднак.*

*А я — з узнятай галавою...*
*Святло праменіць з вышыні:*
*Свет харства здалёк са мною*
*Гаворыць*
*мовай дабрыні.*
*І хоць няма ў чым павініцца*
*На вагах сённяшняга дня:*
*Усё ж, як пройдзе навальніца, —*
*У шчырым сэрцы*
*чысціня.*

### ТАМ, ДЗЕ НАРАДЗІЎСЯ...

*Тут аблокі — не проста аблокі,*
*А дзівосныя мроі, што гояць душу.*
*Тут пагляд дарагі і глыбокі,*
*Вочы маці,*
*якой не схлушу.*

*Тут прывольна, утульна, прыгожа...*
*І бязгрэшна-узвышана тут.*
*І сюды я вяртаюся, можа,*
*Каб рванууца з будзённых пут.*

•

*Няўжо калісьці адгараць*
*Мільярды зор на лузе росным,*
*Што аб маленстве мне звіняць*
*І вабяць зноў у край дзівосны?*

*Няўжо калісьці адгучаць*
*Мільярды велічных мелодый,*
*Якія ў сэрцы змог сабраць*
*Я там з пявучых арф прыроды?*

*Няўжо калісьці адплывуць,*
*Мільярды кветак тых патухнуць,*
*Што і ў снягі ў душы цвітуць,*
*Што і ў мароз круты не жухнуць?*

*Няўжо калісьці адбаліць*
*Мой боль душэўны — незлічоны,*
*І я змагу на свеце жыць*
*Не летуценны, не ўлюбёны?..*

### ПОМНІШ, ДАЛЁКАЯ?..

*Помніш куточак дзівосны, далёкая:*
*Хату матуліну ў засені дрэў,*
*Лета ласкавае, жыта высокае,*
*Луг, дзе касцёр развітальны гарэў?*
*Далеч раздольную, неба зіхоткае,*
*Лес, што малінавы водар бруіў?*
*Нашае шчасце, як знічка, кароткае,*
*Хмельны ў духмяністым*
*садзе наліў?*

*Кветкі пяшчотныя,*
*травы шаўковыя,*
*Сіні туман, залатую расу,*
*Нашы з табою блуканні*
*вясковыя? —*
*Іх і сягоння я ў сэрцы нясу.*

*Імі наперадзе шлях мой асветлены,*
*Імі спяваю і мрою штодня...*
*Дзякуй, далёкая, песня няспетая,*
*Дзякуй, нязбытная мара мая.*

•

*Усміхніцеся мне вясной,*
*Калі просінь свідруюць жаўры,*
*Калі мараю маладой*
*Дні і ночы аж б'юць у літаўры.*

*Усміхніцеся мне вясной,*
*У той час залаты і яркі,*
*Калі дзесьці ў лагодзе лясной*
*Сінявокія ўспыхнуць фіялкі.*

*Запаліце мяне вясной,*
*Калі ў садзе фантанамі квецень*
*Таямніцаю чыстай зямной*
*Наваколле высока асвеціць.*

*Акрыліце мяне вясной,*
*Калі ў сэрцы палеткі і неба*
*Размаўляюць на мове адной,*
*І нішто перайначваць не трэба.*

*Апануйце мяне вясной*
*Пачуццём незямным, узнёслым,*
*Свет агучце пяшчоты струной,*
*І мне іншых не трэба вёснаў.*

*Зачаруйце мяне вясной.*
*Мне прымроена мудрым шляхам,*
*Што над намі каханне адно*
*Непрыручаным кружыцца птахам.*

Тамара МАЗУР

### МІСІЯ

*Сабе не здрадзіць і таму*
*Ў варунках лёсу паблукаеш,*
*Дзе воля —*
*ўбачыш там турму,*
*А дзе турма —*
*жыццё пазнаеш.*

*Дзе твой прытулак —*
*там застой,*
*А дзе ганенні —*
*рост духоўны.*
*Дні пралятаюць чарадой,*
*Дзе і ў якіх жывеш дыхтоўна?*

*Як выдасца раскоша дня,*
*То адкупляецца нястачай.*
*І толькі місія адна*
*У нашым лёсе нешта значыць —*

*Служыць сям'і, расціць дзяцей,*
*Затым галубіць гурт унукаў,*
*І быць дабрэй, і быць прасцей*
*Без шкадавання і прынукі.*

### ЗАЛАТЫ ЛАНЦУЖОК

*Ланцужок залаты вакол*
*шыі нашу —*
*Падарунак мне за...*
*некаханне.*
*І праз многа гадоў*
*ненарокам прашу*
*У таго, хто дарыў,*
*даравання.*

*Не змагла зразумець,*
*не змагла адказаць*
*На сардэчную повязь памкненняў.*
*Як умеў ты чакаць,*
*як умеў ты кахаць*
*І дарыць*
*маладое натхненне.*

*Ланцужок я згубіла аднойчы*
*ў вянцы.*
*Потым кольцы і завушніцы*
*Прадавала, каб звесці*
*з канцамі канцы*
*І нястачы ў той час*
*не скарыцца.*

*А пасля,*
*як сплаціла дарэшты даўгі*
*І распрасціла сталыя плечы,*
*Адшукала дачка*
*ланцужок залаты*
*У старых*
*і запыленых рэчах.*

*І адчула сябе*
*я ізноўку такой —*
*Нескаронаю і недасяжнай.*
*Ланцужок залаты —*
*мой абраны спакой,*
*Абярэг ад учынкаў адважных.*

### СВЯТЫ ВЕЧАР

*Добры вечар —*
*зімовы, калядны!*
*Студзень снегам частуе*
*настрой.*
*Наш пад'езд выглядае парадным*
*Гэтай мілай*
*чысцюткай парой.*

*У дзвары -*
*каляровая ёлка,*
*Светлячкамі*
*мільгаюць агні.*
*Дастаткова суцішыцца толькі,*
*І пачуеш*
*з узгорка званы,*

*Што завуць на вячэрню чакання —*
*У вялікае Ражаство,*
*Святы вечар —*
*з нябёсаў вітанне*
*І з Ісусам зямное радство.*

•

*Акрыляць патрэбна?*
*Акрыляю!*
*Хіба першы раз расціць узлёт?*
*Калі кошт любві ўзаемнай знаеш,*
*Лыжкай дзёгцю*
*не разбавіць мёд.*

*Мёд на тое мёдам і завецца,*
*Каб салодкім смакам спакушаць.*
*І калі каханне не ўдаецца,*
*То яго, як горыч,*
*трэба гнаць.*

*І расціць,*
*расціць нанова крылы,*
*Каб ізноў*
*да неба узлятаць.*
*І шаптаць ад слодычы:*
*"Мой мілы".*
*Забывацца,*
*песціцца,*
*кахаць.*

### РОДНЫЯ ДУШЫ

*Родныя душы паўсюль, як і ўсюды —*
*Нават не сёстры і не браты,*
*Проста ў натоўпе звычайныя людзі,*
*Тыя, з якімі нас лучаць масты,*

*Што змайстраваны*
*з касмічнага пылу*
*Неверагоднай гартоўнай любві,*
*Што дадае нам нябесныя сілы*
*І падахвочвае: "Далей жыві!"*

*Далей, а значыць —*
*ахвотна і прагна.*
*Далей — з усёй паўнатою жыцця.*
*Родныя душы —*
*душы адважных*
*На скрыжаваннях зямнога быцця.*

# АМАРЫЛІС

Апавяданне

МАРЫЯ ВАЙЦЯШОНАК



Завірусе на пагорку нічога не перашкаджала, як у стэпе: нікла да вокан, лапала па сценах, адчыняла слабыя казённыя запоры пад'ездаў, форткі, качалася марцовай коткай. Нейкая ейная гулёная разняволенасць перадавалася й чалавеку — другі дзень новага года, як на другі дзень вяселля, калі ўсе ўжо перазнаёміліся і разам пераначавалі. Ляпнула фортка, у пакой уварвалася паветра, свежае, набрынялае ляснымі гушчарамі, вецер зашчаміўся крысом у дзвярах, рэкнуў, вырваўся на пляцоўку — і я за ім, і тут пахі зімовай навальніцы. Апранаюся на хаду, пачуццё, што мяне ўспомнілі, за мной зайшліся, як было ў дзяцінстве, калі скачаныя ў снег дзеці гурбай увальваліся ў хату, што і дзверы не зачыніць. Куды ідзеш? па што? — абы з хаты! Шчанючку Марту за пазуху — і ходу!

Шаравой маланкай бліснуў ліхтар на слупе і згас. Завіруха сціхла, вея — завуць яе ў нашай вёсцы. А ні следу, цёмныя пячуры сумётаў, вуліца ляжала імшарай, наламанае галлё ў скверы скінутымі з дрэў птушынымі гнёздамі. З пагорка сумёты ішлі дробнымі хвалямі, бы на беразе ў час адліву мора.

Гэтую энергію патрэбна было сабраць, як ранішнюю расу сабе на твар.

Анікагуткі. Праўда, ля сметніцы звархнулася жывая жаночая постаць, убачыўшы мяне, прытка абярнулася, як да знаёмай начніцы:

— Во! І нашто каторы, каб запытаўся, выразаў усё ўсярэдзіне? — трымала ў руках знойдзены абутак. — Харошыя ж боты, імпартныя!

Гідліва адкінула іх убок, выгаворвала некаму, наракаючы, маўляў, жывуць тут людзі, не адчуваючы пад сабой ейнага хісткага яруса, не ўлічваючы ейнай патрэбы. Разглядала мой норкавы паўбурносік увішным, чаплістым позіркам, бы перавязвала мяне таўстой вяроўчынай, якой і сама была падперазаная. Пайшла далей перабіраць сметніцы, пайшла свабодным, упэўненым крокам — яна гаспадарыла тутака пэўна, заўсёды. "З новым годам" — крыкнула мне, адыходзячы. На момант я намацала пад нагою самую ніжнюю прыступку лесвіцы і таксама, як і яна, не паслізнулася, прыняўшы за гонар ейную свойскасць. Сустрэча з жабраком часта адкідвае мяне прэч, я перад ім гаспадыня-самазванка нават і тады, калі адчыняю яму катораму дзверы і ў сваім доме.

Мы абедзве збіралі гэтай ноччу тое, што было непатрэбна ўсім, хто моцна спаў, закалыханы веяй.

Баюся, што памыляюся: крыху пабыўшы, пэўна, выйдзе перабіраць сметнікі баба Тася. Суберыць і адкінутае жабракамі — "арыстакратамі", перамые, папрасуе, загарнуе і складзе ў шафу — не сабе, бо жыве ў такім-сякім дастатку. "Парой будзе... раздам", — адказвае дачцэ (тая сварыцца, сарамеецца матчыных выхадак), маўляў, прыйдуць яшчэ цяжэйшыя часы, трэба некаму запасіцца на кожнага збадзялага.

Мне вусцішна пераняць ейны ясны зрок — няўжо спраўдзіцца? Цяжка сабе ўявіць бабу Тасю з рыззём у ваэй сям'і, але я яе разумею, амаль пазмоўніцку, бы недзе ў падсвядомай цемры таксама рыхтуюся да горшага, як чыясьці ахвяра. Матка найсвентша, каб запытаўся, хто толькі нас спарадзіў?!

Колькі ўжо прайшло таго часу, пакуль мы тут "прымяралі" імпартовы абутак, мяне могуць спахапіцца дома, і шчанюк досыць накуляўся ў снезе. Але гэты навагодні "фэст" толькі распачынаўся: па снезе ішла жанчына, Начная Дама — далі ёй мянушку ў нашым доме. Рухалася, не гледзячы пад ногі — вызначаная, намацаная гадамі начная сцежка, яна заўсёды, казалі, гуляла па начах, імшары, пячуры снежныя ёй не замінaлі. Па падалу, замацаваныя жывулькай, маленькія камочкі ваты, — прыбрала сябе ялінкай, як у бяссснежную зіму. Папраўдзе, я яе амаль не бачыла, ейнае жытло на першым паверсе: вокны звонку застаўлены заўсёды дошкамі, завешаны посцілкамі. Аднойчы спатрэбілася зайсціся па сантэхніка, ён, падказалі, якраз нешта рамантаваў у ейнай кватэры. Завіхнутыя рыззём ножкі стала, крэсла, нават краны, стокі туга загорнутыя, як перацятыя. На вокнах байкавыя коўдры, каб аніякага шуму, гуку, голасу вады, дрэва, голасу чалавека. На падлозе, на канапе, паўсюль расчыненыя, як скарбонкі, ляжалі тоўстыя кніжкі. Яна старанна збірала свае думкі, старанна абараняла рэшткі розуму. Казалі, яна згубіла ў вайну дзяцей. Я хутка сышла, адчуваючы недазвол гаспадыні гэта ўсё бачыць, затрымаць у адчыненых дзвярах варожы ёй свет.

Стук малатка выдаваўся падземным, адбойным.

Цяпер яна ішла разняволена (хоць ты скрозь праваліся на месцы, каб хаця не перашкодзіць), пазірала на завешаныя сонныя вокны, спынялася, нешта там разглядаючы. За шыбамі стаялі вазоны з кветкамі і больш быццам нічога. Жанчына глядзела на іх, бы на жывыя істоты, — краталіся вусны, лавіла хуткім позіркам нечыя няўлоўныя рухі. Магчыма, у гэтых кветках бачыла сваіх дзяцей, заўважала, як расце каторы, што расквітнела, што падрасло за дзень, за тыдзень, за год. Вунь ужо гарыць у цемры тугая пупышка амарыліса. Адгароджаныя ноччу ад людзей фіранкамі, кветкі належалі толькі ёй.

Ад гэтай пары, спраканаўшыся, што Начная Дама ходзіць каля дома, ёй будуць належаць і мае сны.

Раптам цішыня накрыла з галавой, як капшуком. Шчанючка Марта віўкнула на руках, агрызнулася — ззаду даганяў чалавек з ратвейлерам. Я спынілася, каб даць дарогу, мой малы правакатар завурчаў яшчэ мацней. Сабака кінуўся да нас з брэхам, пачаў атакаваць круга.

— Забярыце сабаку! — закрычала я.

Мужчына стаяў нерухома, даючы волю свайму гадаванцу. Насунуты капшук на самыя вочы, глядзеў не мігаючы, зрок прыцэльны. Сабака раз-пораз падымаўся на заднія лапы, даставаў да плячэй.

— Забярыце сабаку... я... цяжарная...

Суха ў роце, перацяты на момант усе сувязі з улоннем, нам абоім не стае дыху. Толькі б дзіця не пачула майго здрадніцкага голасу, майго страху.

Ён забраў сабаку імгненна, пайшоў прэч, сагнуўшыся ўдвая, несучы, як цяжар, маю звестку свету. Ні муж, ні мае родныя яшчэ аб гэтым не ведалі. Страх і абраза: ён? першым? Я яго пазнала: жыве побач у суседнім доме, заўсёды ходзіць, захінуўшы твар, рукі з кішэняў выпіраюць колам, шалупінне сланечніка на вуснах, на ветры ззаду. І я перад ім ужо быццам трымала на руках сваё дзіця, захінаючыся, прасіла літасці да сябе?!

Так, гэта ён, гэта ягоная галубятня ў скверы. Зрэдку стаяў, закінуўшы голаў, глядзеў уверх. Галубы, падняўшыся высока, амаль знерухомелі, бы знайшоўшы там апірышча, ледзь дасягальнае для зроку, тая вышыня, адкуль ніхто іх не можа спудзіць і нават свіст гаспадара пэўна таксама туды не далятаў. Ледзьве варушыліся празрыстыя трапяткія крылы, як на самым кончыку моцнага полымя-шаламя. Полымя гасла і галубы вярталіся. Іншы раз, падсвечаныя халодным сонечным промнем, птушкі ўверсе нагадвалі кволыя першыя кветкі, ледзьве падфарбаваныя вясновай цнотай. Галубы вярталіся. І цяжка было адрозніць сярод свойскага вуркатання галубоў чалавечы голас.

Тады як гэтае відовішча спалучалася з маёй начной сустрэчай? Што гэта: галубіны від спорту, не болей? прытулак здзічэлай душы? ці звычайны гандаль? Навошта яму было зневажаць, страшыць чалавека, якога нават не ведаеш? Хіба ўжо надышлі такія часы, калі кожны стаў самавыяўляцца як найгорш? Мы ўжо жывём сярод аб'яўленага злачынства? Ці можа гэта не па злосці, а проста адольвае хваравітае пачуццё безабароннасці? Выходзіць іншы чалавек на вуліцу са сваім вартавым сабакам без паводка, як з ружжом, ці то дзеля абароны, ці то дзеля нападу. Цяпер я ўжо прызвычаілася, жывучы на пагорку. Цяпер шукаю згоды не з гаспадаром, а з ягоным пестуном: знаёмлюся, дазнаўшыся мянушку, гукаю да яго каторага, нешта тлумачу, сівеючы ад страху. Чарнабровы нямецкі аўчар Акорд ужо не кідаецца з брэхам пад ногі. Сярэднеазіяцкі аўчар Рэй садзіцца наводдаль, пільнуе нас са шчанюком, як тых авечак. Каменныя лапы, сабраныя ў камок, выцягнутыя перад сабой, галава нерухомая, як у сфінкса, і такі жоўты пустэльны погляд, што ў мяне поўныя вочы жвіру. Мы дамовіліся з ім аб вечным маўчанні.

Умомант для мяне ўвесь свет стаў варожым: я цяжарная... мне могуць перашкодзіць... Ад напружання звінела паветра, быццам дрыжэлі шыбы ў вокнах. Я парадзіха... я амаль багавіцца... да мяне нельга нават дакранацца, не тое што. Страх з мяне выходзіў, як замарозка, слепа рухалася напрасткі, як тая Начная Дама. Мне пільна яшчэ раз убачыць твар свайго Страху, каб вызваліцца канчаткова — спужацца яшчэ раз і авалодаць мужнасцю. Я ішла да ягонага пад'езду, хістаючыся: ён спусціць, нацкуе на мяне ратвейлера, ён... і ўявіць немагчыма, але я не хачу жыць побач, увесь век баючыся сустрэчы, не хачу пусціць у гэты свет яшчэ адну ахвяру.

Не ведаю ягонай кватэры, званю наўздагад, адчыняюць, не пытаючыся. Мужчына і жанчына на парозе, узбуджаныя, вясёлыя твары са свежымі сінякамі, паміж імі тая лёгкая згода, вясёласць (якраз пасля бойкі), калі яшчэ ўдалося спыніцца, не забіцца да смерці. І ніхто з іх не можа папракнуць другога, пераважыць — п'юць разам. У кватэры пуста, як на завуголлі, нежылая прастора, нечалавечая. І яна ў нечым лёгкім, ногі басанож, абое бы нейкія пералётныя птушкі, якія выпадкова тут зазімавалі. О, яны ведаюць галубятніка, а як жа! Ахвоча кідаюцца праводзіць, па-вясковаму, да самых "вароцейкаў", далікатна развітваюцца. Няма сумневу, што гэта добрыя, даверлівыя людзі, якія зблудзілі ў свеце, зламаліся. Да іх рэдка звяртаюцца па дапамогу.

Стаю пад дзвярыма, раскалупанае гняздо замка. Адзяваўся сабака (страх мае моцны пах), насцярожаныя крокі — нехта прынік да вочка, і не адчыняў, і не пытаўся, не выдаючы сябе, толькі чувалася цяжкая мужчынская здыхаўка. І я маўчала. Гэта быў момант, калі сама знаходзілася па той бок чалавечых адносін — я сама, пэўна, палохала, як тады, калі ў кватэру залезлі злодзеі. Месяц не магла зазірнуць у шафу, мярзотнае адчуванне, бы табе залезлі ў вантробы. Доўга пасля, абы надыходзіла ноч, без дай прычыны падхоплівалася, ішла крадучыся да вакна, узіралася ў вочка на дзвярах — пільнавала дом. І аднойчы раптам насупраць, блізка — воўк! брыво з рудымі валасамі! Я з рыкам назад! Бяру сякеру, як на звера, буджу сямейнікаў — нікога няма, табе падалося, кажуць. А ў мяне лапаткі сышліся на спіне, я баялася людзей, доўга не было даверу да нікога, маўляў, ёсць гады, я ведаю. Доўга была на варце заўсёды. І калі на дачы выпадала начаваць адной, садзілася ля вакна, сядзела і глядзела ў цемру, мне пільна бачыць, чуць, каб быць гатовай абараніцца. Але на дачы быў іншы страх, з дамешкам незнаёмых гукаў прыроды, пужала ейная моц, навальнічныя зрухі. У горадзе баішся толькі чалавека. Ганебны, зневажальны стан, быццам няма даверу да самога сябе. І цяпер яшчэ, калі доўга не знаходжу патрэбную рэч, кажу "ўкралі", хаця тады ніякай страты не панесла — злодзеям перашкодзілі суседзі.

За дзвярыма ўжо перагаворваліся, адчыніла жанчына, адхінуўшы назад сабаку, той агрызнуўся... Жанчына... цяжарная... на апошніх днях... гузік з халата на жываце пырснуў, пакаціўся мне пад ногі...

— Я ўсё ведаю, выбачайце. Пасля Афганістана з ім здараецца... Нараджу дзіця і ўсё мінецца... ён любіць дзяцей... выбачайце, — сказала і вярнулася ў кватэру, да злога сабакі, да пакалечанага мужа.

Я таксама папрасіла мяне прабачыць, пайшла дамоў, разважаючы, усё быццам разумеючы. Так, яго раздражняла тваё светаадчуванне: выйсці ноччу са шчанюком на руках, адной... ён, пэўна, помсціў, што ты, баба, не згубіла яшчэ тое, чым ён сам ужо не валодаў. Ён пужаў, ён усталёўваў свой свет жахаў, які набыў на вайне. Ён усё яшчэ "адстрэльваўся"... і трапіў у цябе...

Ён не здагадваўся, што кожная жанчына ад самай калыскі да самай смерці — "цяжарная", яна вякамі стварае вакол сябе зусім іншы свет.

І нават "скіфскія бабы" ва ўкраінскім стэпе, якія, можа, таму і скамянелі цэлам, калі паміж сабой і жонкай муж паклаў ваяўнічую стралу.

Ішоў снег, вялікі, бухматы, як упрыгожванне, дабультова, маруднай рукой: вось табе на ліхтар, вось табе на сметніцу, вось табе на берэт. Дамы стаялі, бы ў цукровай пудраванцы, не звязаныя сцежкамі, пераходамі, адасобленыя адзін ад аднаго, загорнутыя ў навагоднюю мішуру. Пад старой яблыняй, што засталася ад былога селішча, высвечваўся свежы след ад казінага капыта, поўны ружоватага святла. Яшчэ чуваўся ў паветры гук бомаў, што пэўна калыхаліся на ейнай шыі.

*Стаіць Калядная пара —*
*Бы Поўня пасярод двара!**

— Дзе ты ходзіш? — падцяўшы вусны, сустрэў на парозе муж, яшчэ адзін малады хатні "ваяр". — Табе, бы лунаціку, трэба скора будзе нанач мокры хаднічок класці, каб прачыналася...

У пакоі раптам усё напружана зазвінела. Тата (якраз гасцяваў у нас, прыехаўшы з вёскі) мякка адхіліў мужа, павёў на кухню, паставіў гарбату.

— Ці чуеш, да нас у вёску нядаўна дзік прыходзіў раніцай. Хадзіў па двярах, шукаў паляўнічага, хацеў разабрацца, бо парася было забіта ў лесе... А ў мяне ж усе хлявы, як на тое, былі парасчыняныя, няхай ж ба лучыў...

Я заснула за сталом. Я не чула: пэўна, тата шкадаваў, што не згледзеў, не злавіў, зачыніўшы дзверы ў хлеве, таго дзіка, шкадаваў, што не пакаштаваў дзічыны. Ён сядзеў ля маёй "калыскі". Мне снілася жанчына з першага паверху: у чорнай хустцы, вочы галубовыя, празрыстыя, без зрэнак, быццам глядзіш у вакно, на высокім месцы жывучы, проста ў неба. Яна ішла па вуліцы белым днём, мусіць, ёй палепшала. На вакне ўжо цвіў амарыліс, суквецце чатырох буйных бомаў у чатыры бакі свету. Амарыліс — імя прыгожай пастушкі з фантазій паэта Тэакрыта. Амарыліс — адна з дачок Начной Дамы.

А вакол лёталі, вуркочучы, галубы: ці то смяяліся, ці то стагналі...

---

*Верш Людкі Сільновай.

УРАЖАННЕ

# САКРЭТНЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ — НА ДЫСКУ «N.R.M.»!

Як і ранейшы дыск гурта "N.R.M." — "Тры чарапахі", іх новы альбом "Дом культуры" ўяўляе сабой літаратурна-музычную п'есу, прысвечаную "гастролям" у віртуальнае мястэчка Ёцавічы. Але перш чым слухач акунецца ў акустычную атмасферу дыска, яму прапануецца знаёмства з "Сакрэтнымі матэрыяламі" паводле гастрольнага тура "N.R.M." па Беларусі, які адбыўся ў 2000—2001 гадах.

Літаратурна-музычная частка альбома ўяўляе сабой замалёўку з жыцця правінцыйнага клуба, у госці да якога завітаў вядомы рок-гурт з Мінска. Сатырычная п'еса вельмі дасціпна і трапна выканана сябрамі гурта — В. Бабак, Г. Вольскай, І. Курапаткінай, С. Канавічам.

Што ж тычыцца музычнага матэрыялу, то дыск уяўляе сабою развіццё гукавых напрацовак (аператар Генадзь Сыракваш) альбома "Тры чарапахі" з яго магутным гітарным гучаннем, з рытмічнымі кампазіцыямі, з запамінальнымі, хітавымі мелодыямі, якія слухачы абавязкова будуць спяваць на канцэртах разам з музыкамі. Як заўсёды, альбом вызначаецца глыбокай распрацоўкай тэм, што ўзнімаюцца ў песнях гурта (аўтар Лявон Вольскі). Сапраўднымі музычнымі палотнамі прагучалі на дыску такія незвычайныя песні як "Вайна", "Фабрыка", "Сакрэт сусветнага свята", створаныя ў industrial-стылістыцы. Рэзкімі музычнымі фарбамі, гітарнымі рыфмамі і выбуховымі рытмамі бубнаў і баса прапануецца намаляваць у сваім уяўленні карціну існавання чалавека ў пост-індустрыяльным грамадстве, яго пошукі сэнсу жыцця, прыгажосці, якой застаецца ўсё менш...

N.R.M.
DOM kultury

Філасофія рэфлексіі, кшталту: "Усё стагоддзе — дэкаданс!" змяняецца на дыску сатырычнымі, нават з'едлівымі песнямі, якія слухаць — адно задавальненне! Слухачы тут, безумоўна, адзначаць і хітавыя "Беларускія дарогі" ў power-стылістыцы, смешную да слёз песеньку "Юра, ёлкі-палкі, Коля", у якой дасціпна распавядаецца пра захапленні маладых сяброў-будаўнікоў.

Сэнсавым цэнтрам альбома "Дом культуры" сталі дзве кампазіцыі сацыяльнага гучання — песні "Маё пакаленне" і "Лёгкія-лёгкія". Першая накіраваная на асэнсаванне лёсу маладых беларусаў, сталенне якіх прыпала на першыя гады беларускай незалежнасці, з усімі праблемамі і сацыяльнымі парадоксамі. Другая ж з названых песень насычана думкамі адносна перадолення болю асабістых страт, якія выпадаюць на долю кожнага чалавека сярэдняга ўзросту.

Як адзначалі на прэс-канферэнцыі самі музыкі, песня "Хавайся ў бульбу" не ствралася ў піку "Краме", музыкі якой нават так назвалі свой апошні альбом. Проста аднойчы ідэю песні з такой назвай даў музыкам "N.R.M." і "Крамы" адзін агульны сябар. А які з варыянтаў больш жыццяздольны — вырашаць слухачам. Нам жа здаецца, што варыянты раскрыцця гэтай тэмы дапаўняюць адзін аднаго. Як і песня "Тры чарапахі-2" сэнсава дапаўняе песню "Тры чарапахі" з мінулага альбома "N.R.M.". У гэтым і інтрыга, і шарм альбома "Дом культуры" вядучага беларускага гурта.

Вікторыя БАРТКЕВІЧ



***...У фінале спектакля гледачы сустракаюць акцёраў амаль моўчкі. Паўза зацягваецца – ці апладзіраваць? І ўсё ж апладысменты прарываюцца праз душэўны неспакой, маўклівасць, нават стомленасць ад убачанага.***



# ЗАСТАЦЦА БЕЗ СНЯДАНКА

«Гледачы пляскаюць сабе за мужнасць», -- чуецца іранічная ціхая рэпліка ў зале ад некага, хто сядзіць ззаду мяне. У думках і пагаджаюся, і не пагаджаюся з ёй: неабходна апладзіраваць і за мужнасць акцёраў, якія не пабаяліся існаваць у экстрэмальных (няхай і прапанаваных) абставінах, што могуць абудзіць у чалавеку страх, «а страх забівае волю, а значыць – асабістую свабоду...»

У пачатку сакавіка ў афішы Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага з'явіўся новы спектакль: «Сняданак на траве» паводле п'есы А. Паповай у рэжысуры В. Баркоўскага. Дзесьці пяць гадоў таму на сцэне гэтага тэатра была пастаўлена адна з «зорных» п'ес беларускага драматурга А. Паповай «Пестуны лёсу», героі якой апынуліся ў няпростых умовах жыцця – у новым, рынычным часе. П'еса «Сняданак на траве» (дарэчы, трынаццаты па ліку драматургічны твор Паповай, пастаўлены на Беларусі,) таксама з тытулаваных: перамагла на Рэспубліканскім конкурсе драматургіі, а летась стала намінантам маскоўскай літаратурнай прэміі «Антыбукер». Цікава, што многія акцёры, якія сыгралі ў «Пестунах лёсу», задзейнічаны і ў новым спектаклі. Здаецца, што даўнішнія персанажы У. Шэлестава, Т. Гаркушы, Т. Баўкалавай паказваюцца ў іх новых героях.

Увогуле тая філасофская гісторыя, якая разыгрываецца ў «Сняданку на траве», так бы мовіць, старая, як свет. Падчас прагляду трагікамічнага спектакля ўзнікае шмат і літаратурных, і кінематаграфічных асацыяцый (напрыклад, ад «Сталкера» Таркоўскага да «Гаража» Разанава). Людзі, пераважна творчых, інтэлігенцкіх прафесій, а гэта — скульптар, мастак, крытык, прафесар-фізік, яго жонка — сустракаюцца ў «лясной» гасцініцы. Лёсам (альбо Богам?) падбіраецца сапраўдная «калекцыя з людзей», якія, не маючы магчымасці сысці з небяспечнай «зоны», вымушаны прыстасоўвацца і да цяжкіх пабытавых умоў жыцця (няма вады, ежы), і да слабасцяў, недахопаў адно аднаго. Для кожнага героя наступае свой момант ісціны: момант ці то станаўлення відушчым, ці то горкага расчаравання, ці то нараджэння доўгачаканага пачуцця пратэсту, нязгоды з «прапанаванымі абставінамі». Ніхто з персанажаў не заслугоўвае таго, каб быць названы станоўчым. Зразумела адно, што «усе зграшылі, і няма ніводнага праведнага». І гэта не схаваеш ні за навуковую ступень, ні за выдадзеныя кнігі ці намаляваныя карціны. Ні за вытанчаную, боскую прыгажосць Джаконды, альбо наіўную дабрыню кволай дурніцы. Моцная, прынцыповая дзелавая Ганна Сяргееўна (Т. Гаркуша) хутка губляецца ў "зоне", не можа дапамагчы ні сабе, ні нават дзецям: жах застацца галоднай ці адной аказваецца мацнейшым за яе высакародную натуру. Мастак Валошын (Д. Мазуро) з лёгкасцю, нават бяздумна "падкладвае свінню" сябру, скульптару Еўдакімаву (У. Шэлестаў), правеўшы, не "па чарзе", палкую ночку з прыгажуняй-прастытуткай Лорай (Я. Шуляк), адразу ўпадабанай скульптарам (ён параўнаў дзяўчыну з Джакондай). Істэрычная, прагнучая добрага , уладкаванага жыцця (пажадана — у Англіі) Рыта (А. Цвяткова) кідае ў "зоне"мужа — небараку-фізіка Дубровіна (В. Саладзілаў), які незразумела навошта палезаў на машыне лесам. Дубровін у сваю чаргу балюча помсціць жонцы, якая адмовілася з ім спаць: здраджвае ёй са спакусніцай Лорай. Ціхая, крыху дурненькая прыбіральшчыца Люся (Т. Баўкалава) робіцца агіднай, невыноснай, калі хоча есці. "Жывот баліць! Жадзюгі!" — крычыць, нават вые Люся, адбіраючы ў людзей апошнія рэшткі ежы. (Трэба адзначыць цудоўны, яскравы вобраз Люсі, створаны Т. Баўкалавай. Неверагодны боль, які адлюстроўваецца на твары яе героіні ў момант усведамлення, што ўпадабаны ёю Еўдакімаў закаханы ў прыгажуню Лору — узрушае па-майстэрску знойдзенай інтанацыяй, настроем, з якім можа жыць у гэтым свеце непрыгожая жанчына). Дзяўчынка-падлетак Юля (А. Родак), вясёлая, закаханая напачатку, робіцца з адчаю — у "зоне" забілі яе каханага Фелікса — наркаманкай. Перад намі насамрэч "калекцыя з лю-



***Абвестка пра адкрыццё Цэнтра сучаснай драматургіі і рэжысуры ў Мінску супала з пачаткам маскоўскага фестывалю маладой драматургіі, што да гэтага часу ладзіўся ў мястэчку Любімаўка (там знаходзіцца маёнтак Станіслаўскага), а сёлета праходзіў на сцэне МХАТа імя А. Чэхава.***



# ЭКСПЕРЫМЕНТ ДРАМАТУРГА

Менавіта дзякуючы гэтаму фестывалю былі адкрыты імёны такіх навамодных цяпер у Маскве драматургаў, як А. Курачкін ці К. Драгунская. Мэта Цэнтра сучаснай драматургіі і рэжысуры, ініцыятарам стварэння якога выступіў сапраўдны беларускі Моцарт ад драматургіі Андрэй Курэйчык не менш значная — "уключэнне ў тэатральную творчасць пачынаючых рэжысёраў, драматургаў, сцэнографаў і стварэнне прынцыпова новых тэатральных форм і тэхналогій, а таксама ўкаранення апошніх еўрапейскіх і расійскіх дасягненняў у галіне сцэнічнага мастацтва. А адна з галоўных яго задач — правядзенне тэатральных эксперыментаў".

А. Курэйчык не хавае — ідэя стварэння цэнтра далёка не арыгінальная, а скарыстаная ім у Маскве, падчас своеасаблівай "тэатральнай" стажыроўкі. (Таму і невыпадковае гэтае супадзенне адкрыцця Цэнтра сучаснай драматургіі і рэжысуры і маскоўскага фестывалю маладой драматургіі, якія прыпалі на пачатак сакавіка. Маскоўскі вопыт не дае Курэйчыку спаць у шапку.) Бо ў сталіцы Расіі ўжо даўно побач з акадэмічнымі рэпертуарнымі тэатрамі існуюць усемагчымыя цэнтры ці майстэрні драматургіі і рэжысуры. У Маскве агульнавядомыя з іх: "Цэнтр драматургіі М. Рошчына і А. Казанцава", Цэнтр Меерхольда пад кіраўніцтвам В. Фокіна, асацыяцыя "Новая драма". Пачынаючы менавіта з "малых пляцовак", многія маладыя рэжысёры і драматургі зрабіліся знакамітымі творцамі, выпрацаваўшы "свой індывідуальны стыль і почырк", а самае галоўнае — сталіся запатрабаванымі ў сучасным расійскім тэатральным працэсе (напрыклад, сёння паспяхова працуюць разам драматург К. Драгунская і рэжысёр В. Субоціна). Эксперыменты ўчарашніх "пачаткоўцаў" прыжываюцца і на вялікіх акадэмічных сцэнах.

Па меркаванні А. Курэйчыка, Цэнтр сучаснай драматургіі і рэжысуры — гэта самастойная і незалежная тэатральная уста-



дзей", якія ў першую чаргу імкнуцца змяніць нешта навокал, чым у саміх сабе, хутчэй забіць свой страўнік, чым застацца нішчымі духам.

Людзі ў процівагазах, якія кантралююць "цывільных", здаюцца сімвалам апакаліпсісу. І як сёння вайскоўцы забіраюць снедаўшых на траве людзей (ці забіваюць аднаго, а іншаму даруюць жыццё, як падлеткам Феліксу і Юлі), так заўтра будзе рабіць з чалавецтвам вялікі Суддзя (адзін возьмецца ў нябеснае царства, а другі застанецца на зямлі). Аднак у людзей ёсць яшчэ час падумаць, зазірнуць у свае сэрцы, зрабіцца лепшымі, пакаяцца. Як кажа гасцям "зоны" адзін з вайскоўцаў: "Скажыце дзякуй, што жывыя засталіся..."

У спектаклі з філасофскім роздумам стасуецца і моцны грамадзянскі заклік. А. Папова даводзіць, што нашыя людзі не разумеюць і не шукаюць асабістай свабоды. Бо нават каліахова "зоны" ліквідуецца, людзі, якія апынуліся па чужой волі у лесе, не думаюць уцякаць з яе. Лепш, бяспечней — як ёсць. Але драматург верыць у моц духу чалавека: змарнелыя, стомленыя, азлобленыя героі адчайна сыходзяць у ноч...

Вядомы рэжысёр-эксперыментатар, цяперашні мастацкі кіраўнік Коласаўскага тэатра В. Баркоўскі рабіў "Сняданак на траве" ў кароткі тэрмін. Пэўная рэжысёрская недапрацаванасць, недадуманасць адчуваюцца на сцэне. Але немудрагелістая, просценькая рэжысура Баркоўскага дазваляе ў прасторы сцэны, не загрувашчанай прадметамі ( сцэнаграфія А. Касцючэнкі), лунаць паветру. Акцёры, вымаўляючы свае надзвычай разумныя, цікавыя маналогі, свабодна бегаюць з пакоя ў пакой гасцініцы, мітусяцца на сцэне, тым самым прадстаўляючы метафару вечна рэфлексуючай душы нашага інтэлігента. І ўсё ж хочацца ўзяць гэтае паветра вялікай сцэны і зацісніць яго ў прастору малой, каб духата, што жыве ў чалавечай душы, духата прагматычнага, рэчавага быцця ўвогуле адчувалася гледачамі яшчэ мацней, яшчэ глыбей...

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**

**НА ЗДЫМКАХ: сцэны са спектакля**

нова, фінансаванне якой павінна ажыццяўляцца на парытэтных асновах: дзяржавай і недзяржаўнымі арганізацыямі: тэатральнымі фондамі і асацыяцыямі, спонсарамі і мецэнатамі. Цэнтр з'яўляецца тэрыторыяй свабоднай творчасці, любыя формы цэнзуры ў цэнтры забаронены. Цэнтр — тэрыторыя "маладых". Прыярытэт у рабоце цэнтра маюць маладыя людзі да 35 гадоў". А гэта значыць, што яны маюць права не толькі на эксперымент, а нават і на творчую няўдачу, што немагчыма і недапушчальна ў вялікіх рэпертуарных тэатрах, дзе ёсць "план на гледачоў". Таму "цэнтр не мае на мэце глядацкі поспех, колькасць месцаў у зале можа быць мінімальнай".

Трэба адзначыць, што заснавальнікамі Цэнтра сучаснай драматургіі і рэжысуры выступілі Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў пры падтрымцы Міністэрства культуры РБ, а таксама Нацыянальны цэнтр творчасці юнацтва і моладзі (на думку А. Курэйчыка, "асноўная форма ўдзелу дзяржавы ў стварэнні цэнтра можа заключацца ў прадастаўленні памяшкання, прыдатнага для працы цэнтра"). У бліжэйшых планах Цэнтра: пастаноўка спектакля "Раберта Зука" паводле французскага драматурга Бернара-Мары Кальтэса, якую мусіць паставіць рэжысёр Міхаіл Лашыцкі (прэм'ера — у маі). З шэрагу іншых накірункаў дзейнасці Цэнтра — правядзенне драматургічных семінараў, майстаркласаў, фестываляў, міжнародных абменаў...

**Д. ТАЯНОЎСКІ**

**НА ЗДЫМКУ: драматург А. КУРЭЙЧЫК**

ПРЭМ'ЕРЫ

***12 сакавіка на Малой сцэне Купалаўскага тэатра адбылася прэм`ера монаспектакля "Беларусь у фантастычных апавяданнях". Адштурхнуўшыся ад вядомай аповесці Яна Баршчэўскага "Шляхціц Завальня", рэжысёр Уладзімір Савіцкі і славуты купалавец Генадзь Аўсяннікаў***



# З БОГАМ У ДУШЫ І ДАБРЫНЁЙ У СЭРЦЫ

***стварылі невялікую, але надзіва гарманічную інсцэніроўку, напоенную прыгажосцю беларускай мовы і народных песень, што гучаць у выкананні Івана Кірчука.***

**У купалаўцаў атрымалася цудоўная нізка фантастычных гісторый, якія павольна перацякаюць адна ў адну, "простых апавяданняў, народных прыдумак, у якіх шмат божае праўды". Падчас спектакля шчыры і арганічны Генадзь Аўсяннікаў неўпрыкмет руйнуе мяжу паміж сцэнай і залай, звяртаючыся да гледачоў з пытаннямі і прамовамі, як да сваіх сапраўдных гасцей, што завіталі завейным вечарам да цікаўнага гаспадара. Цяпло запаленых свечак, золата рассыпанага зерня, калядная зорка ствараюць дзівосную атмасферу дабрыні і шчырасці. Здаецца, кожны з прысутных на тыя пяцьдзесят хвілін, што доўжыцца спектакль, забывае пра свае турботы і ператвараецца ў даверлівае дзіця, якое з захапленнем слухае расповеды пра нячысцікаў, белую сароку, чароўны кій і вужыную карону. Але галоўным героем гэтых апавяданняў усё роўна застаецца сумленны і працавіты беларус, з Богам у душы і дабрынёй у сэрцы.**

**Юлія ПАЛАЧАНІНА**

**НА ЗДЫМКУ: народны артыст Беларусі Генадзь АЎСЯННІКАЎ.**

***Навіна: з рэпертуару Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага знята дзесяць спектакляў. Вядома, час ідзе і некаторыя***

# СЛОВА Ў АБАРОНУ СПЕКТАКЛЯ

***пастаноўкі пасяваюць састарэць, а яшчэ — "намуляць" вока гледачу. Але, на вялікі жаль, пад "скарачэнне" трапіў не горшы і дастаткова новы спектакль рэпертуару "Ноч у Вальпараіса..."***

**Нагадаю, што прэм'ера гэтага сцэнічнага твора адбылася ў красавіку 2001 года. П'еса швейцарскага драматурга Філіпа Люшэра, прысвечаная вядомаму чылійскаму паэту, лаўрэату Нобелеўскай прэміі Пабла Нэруду, была пастаўлена рэжысёрам Ананіяй Міхальцовай пры падтрымцы Беларускага цэнтра міжнароднага інстытута тэатра (ЮНЕСКА), а таксама швейцарскага культурнага фонду PRO-HELVETIA. Літаратурна-музычна-драматычную навелу ў адной дзеі разыгрывалі цудоўныя акцёры А. Ткачонак (П. Нэруда), Э. Пранскутэ (Алена), В. Ліхадзей (Маргарыта), якія надзвычай лёгка, натхнёна вялі свае ролі, былі злучаны адным дыханнем на сцэне. Па просьбе А. Міхальцовай вядомы акцёр і музыкант В. Шадзько напісаў на вершы Нэруды песні (В. Шадзько сыграў у спектаклі ролю Гітарыста), якія ў выкананні артыста найлепшым чынам раскрывалі няўлоўную, боскую сутнасць Нэрудавай паэзіі.**

**Спектакль "Ноч у Вальпараіса..." спадабаўся мне з першага прагляду. Тонкі, вытанчаны, інтэлігентны сцэнічны твор вымагаў моцнага душэўнага перажывання і суперажывання дзвюм геraіням, жанчынам, якія кахалі Паэта і загінулі ў імя Кахання. Аматарам і знаўцам паэзіі, людзям творчых прафесій спектакль падаваўся нібыта агучаным уласнымі маналогамі душы, інтымнай споведдзю. Гісторыя жыцця, разыграная на сцэне, агаломшвала, падпарадкоўвала свайму адначасова лірычнаму, ці то элегічнаму, драматычнаму настрою.Гэта быў спектакль-верш.**

**"Ноч у Вальпараіса..." — пра выгнанне паэта з Радзімы. І гэта тэма рабіла спектакль блізкім да нашай рэчаіснасці, выклікала пэўныя аналогіі. Таму некамерцыйная пастаноўка, скіраваная да ўдумлівага, сталага, інтэлектуальнага гледача, здавалася надзённай, вартай увагі свядомых людзей.**

**Я памятаю, што пастаноўка "Ноч у Вальпараіса..." разыгрывалася на сцэне тэатра зрэдку. А цяпер увогуле знята з рэпертуару. Шкада. Гэта якраз той з нямногіх нашых мінскіх спектакляў, які хацелася б параіць абавязкова паглядзець. Калі вы насамрэч любіце паэзію, то углядайцеся, насалоджвайцеся радкамі Нэруды, які, па меркаванні А. Міхальцовай, "заўсёды заставаўся змагаром за правы чалавека на яго пашану, свабоду і каханне!.."**

**В. Б.**



**НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля. (А. Ткачонак (Нэруда) і В. Ліхадзей (Маргарыта).**

**ФОТА А. СМОЛЬСКАГА**

# ГУЧНАЯ ЦІШЫНЯ МУЗЕЯ

Фота Кастуся ДРОБАВА

Адразу і не здагадаешся, што за цытадэляй Палаца Рэспублікі ў ціхім кутку Верхняга Горада прытуліўся мо самы шумны з нашых музеяў. Тут не відаць чарады экскурсійных аўтобусаў і натоўпу ля ўваходу. Яго дзверы не штурмуюць (пакуль?) турысты. А ў светлых, як наноў народжаных пасля рэстаўрацыі, пакоях не паглядзіш — не ўбачыш панараму гістарычных батальных падзей пад належны акампанемент магнітнай стужкі з эфектам кананады.

І ўсё ж атмасфера гэтага музея не дазволіць табе засяродзіцца ў цішыні. Цішыня тут, паводле прыроды саміх экспанатаў, — гучная. Бо высноўваецца яна з галасоў ды мелодый, з прэм'ернага тлуму тэатральных залаў, гаманкога фае ды закулісных плётак, сыграных драм і жыццёвых камедый... Да таго ж тут, у Музычным завулку, часта і жывая музыка гучыць: з таго першага дня, калі Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі справіў уваходзіны па сваім новым адрасе.

Пра дом пад нумарам 5 у Музычным завулку мы зусім нядаўна пісалі. Ды вось — новая падзея паклікала ў гістарычны куток старога Мінска. І на той покліч адгукнуліся многія: гасцям было цеснавата нават, затое радасна. Ці не кожны прыйшоў з падарункам, і "дароўчы рытуал" атрымаўся кшталту маленькага шоу.

З якой нагоды госці ды падарункі? З нагоды, якую намеснік міністра культуры краіны В. Гедройц назваў святам беларускай культуры, падкрэсліўшы, што музей, дзе і адбывалася тое свята, павінен у нас быць адным з самых цікавых.

Дык вось, у гэты дзень урачыста адкрывалі першую чаргу пастаяннай экспазіцыі — "Вытокі тэатральнай і музычнай культуры на беларускіх землях". (Аўтары тэматыка-экспазіцыйнага плана З. Кучар, А. Лабовіч, А. Міхаленя; мастакі, якія аформілі, нават сфарміравалі выставачнае асяроддзе, — П. Драчоў ды У. Кандрацьеў).

Толькі спецыялісты-музейшчыкі маглі сабе ўявіць аб'ём ды інтэнсіўнасць працы, укладзенай іх калегамі ў новы адмысловы твор, скажам так, духоўна-матэрыяльнай культуры. На даволі сціплай плошчы ўдалося размясціць сапраўдны скарб і зрабіць гэта з выдумкай, з густам, займальна і пераканаўча — так, каб глядач адчуў і прыняў своеадметную логіку аўтараў канцэпцыі. Адметнасць жа ў тым, што "літара" храналогіі падпарадкоўваецца тут "духу" сінкрэтычнасці, якая спрадвек злучала ў культуры беларусаў тэатр і музыку.

З архітэктурнымі асаблівасцямі музейных пакояў гожа спалучыліся вітрыны для экспанатаў. Далікатныя, выкананыя з лёгкіх сучасных матэрыялаў, яны амаль незаўважныя, дазваляюць дэталёва разгледзець кожную выстаўленую рэч, нібы патрымаўшы ў руках, адчуўшы праз "гучную цішыню" гэтага дома музыку розных стагоддзяў.

Разглядаць ёсць што. Прадстаўлены тры тыпы батлейкі: віцебскі (пры выкарыстанні запаленых свечак атрымліваўся тэатр ценяў, дзе ад жывога цяпельца і лялькі нібы ажывалі, пачыналі круціцца), заходні (т. зв. яселка, распаўсюджаная на Гарадзеншчыне), магілёўскі (двухпавярховая батлейка). У сямейства самайгральных ды мембранавых інструментаў сабраны бразготка-званочак, трашчотка, кляшчотка, шархуны ды калотка. Самавітую дуду сучаснага майстра В. Кульпіна дапаўняе рэпрадукцыя фотаздымка дудара з Вілейшчыны пачатку XX ст. А малы бубен, гармонік ды скрыпка суседнічаюць з даматканым ручніком. У некаторых вітрынах створаны асацыятыўна-вобразныя кампазіцыі з пэўным тэматычным, а то і з філасофскім падтэкстам: саламяныя калядныя зоркі, саламяная маска казы плюс эскіз касцюма калядоўшчыка, выкананы (як, дарэчы, і ўсе эскізы адзення ў экспазіцыі) знаным сучасным майстрам, мастачкай А. Александровіч. Ці яшчэ: дажынкавы каравай на ручніку, саламяны, адмыслова аздоблены дажынкаўскі вяночак плюс эскіз святочнага сялянскага строя.

Нібы змена музыкі — змена ўражанняў ад нечаканых супастаўленняў у гэтай унікальнай калекцыі знакаў эпох, знакаў культуры, знакаў жыцця. І як жа не вылучыць у калейдаскопе радасных нечаканасцяў старонкі Радзівілаўскага (Кёнігсбергскага) летапісу з выявамі скамарошых ігрышчаў, тытульны аркуш "Кнігі Царства" Ф. Скарыны, ініцыялы з іншых яго пражскіх выданняў — выявы скамарохаў у ювелірным паліграфічным адлюстраванні. Ці беларускі рукапісны зборнік XVI ст. з каляднымі кругамі, табліцамі, побач са старажытным календаром.

А хіба прамінеш знаходкі археолагаў! Тут і гліняная свістулька XVI ст. з раскопак на Нямізе, і шахматная касцяная фігурка пешкі-барабаншчыка XII ст., знойдзеная ў Ваўкавыску, і фрагменты касцяной жалейкі XII ст., адкапаныя ў Навагрудку, і аскепак бронзавага звона XIII ст. з Гародні.

Дайце веры: у захапленні я магу "пераказваць" амаль усю экспазіцыю! А гэта ж — толькі пачатак. На чарзе, як паведаміла дырэктар музея З. Кучар, — адкрыццё т. зв. музычнай залы, афармленне якой будзе прысвечана творчасці беларускіх кампазітараў XX ст. Між іншым, падарункі, з якімі наведаліся ў Музычны завулак шматлікія госці, прадстаўнікі розных сфер культуры, а пераважна — справы музейнай, — яшчэ адзін стымул для працягу працы. Бо ўсе тыя "розныя рознасці" ўспрымаліся гаспадарамі дома ці як папаўненне, ці як вытокі будучых экспазіцый. Цікавыя рэчы патрапілі тады ў музейную калекцыю? Мяркуйце самі. Ноты нашчадкаў роду Агінскіх. Рэпрадукцыі малюнкаў Ч. Манюшкі (арыгіналы захоўваюцца ў Кракаве), сярод якіх ёсць выявы менскага дворыка, зробленыя з натуры ля вокнаў цяперашняга будынка музея, а ў свой час — жылога дома, дзе кватаравала і сям'я Манюшкаў. Арыгіналы газет 1943 г. з паведамленнямі пра дзейнасць нашых тэатраў ва ўмовах эвакуацыі ці ва ўжо вызваленых раёнах Беларусі. Творы знанага сцэнографа А. Марыкса, захаваныя з даваенных гадоў. Камплект фотаздымкаў знакамітага купалаўца П. Кармуніна. Пацеркі з прыроднага матэрыялу, зробленыя рукамі легендарнай С. Станюты...

Ведаю, што вакол новага музея ўжо фарміруецца кола сяброў. Прыхільнікаў. Аматараў проста завітаць у яго напоўненую музыкай цішыню. Ці насамрэч паслухаць музыку, пахадзіўшы на канцэрты, якія за гэты год зрабіліся неад'емнай часткай творчай атмасферы музея, часткай яго жыцця.

С. БЕРАСЦЕНЬ



Мінск, Музычны завулак, 5


















Мікола ШАБОВІЧ

### Эдуарду АКУЛІНУ

Акулін Едрусь-Эдуард
Вядомы як паэт і бард.
Хай пад тваім КРЫЛОМ АНЁЛА
Заўжды гучыць пяшчоты сола.

### Алесю БАДАКУ

Алесь Бадак — хлапец цвярозы,
Рэдактар быў аддзела прозы,
Але, нягледзячы на гэта,
З душой лірычнага паэта.

У "Полымі" нядоўга госціўся,
Год не мінуў — абмаладосціўся.

### Алесю ГАЎРОНУ

Пажартуе, і пакурыць,
І запросіць нават сесці.
Як па нумары дзяжурыць —
Не чапайце вы Алеся.

Галава ўжо задурона
І без вас тады ў Гаўрона.

### Міколу ЯЦКОВУ

Ты кампазітар і паэт.
Спявак — заслужаны, не меней.



Шчэ й парадыст. Гаворыць свет:
"Яцкоў Мікола, мабыць, геній..."

Ты уздымаеш песняй дух,
Вядзеш сваё прыгожа сола.
Калі і ў ложку гэткі ж зух,
Цаны няма табе, Мікола!

---



Анатоль ЗЭКАЎ

## РАГАТЫЯ ПАЭТЫ

*Наўнымі пашчэнкамі каровы*
*рыфмуюць лепш пісакаў*
*ганаровых.*

Данута БІЧЭЛЬ

Адкіну ўбок любыя прымхі —
мне не да ўласнага радка!
Жуюць траву каровы ў рыфму,
што ў іх злятае з языка.

Ужо маўчу пра рытм пры гэтым
і асацыятыўны рад.
Заткнуць каровы і паэтаў,
што маюць званняў розных шмат.

Я не прашу нічога ў Бога,
ды мара ёсць усё ж свая:
наставіў бы і мне хто рогі,
каб замумукала і я.

## РЫЗЫКАНТ

*...Нябёсы вачэй*
*Адлюструеш,*
*расінку*
*І зорны сусвет...*

*паэт —*
*Хто заўжды*
*рызыкуе.*
*Без рызыкі ён —*
*не паэт!..*

Уладзімір МАЗГО

Па вокладцах родных шнурую
І таму,
Што, напэўна, паэт,
То нябёсы вачэй
Адлюструю,
То ў расінцы
Убачу Сусвет.

За вяскоўцамі я,
Нібы злодзей,
Не стамляюся ўназірк
Сачыць,
Пазначаючы ўсё у блакноце,
Каб пасля яго дома адкрыць
І згадаць земляноў
Па імёнах
І ў вершах
Усім расказаць,
Як шле цётка Анэля праклёны
На таго,
Хто завецца ёй зяць;
Як, схаваўшыся ў градах ад жонкі,
Каб, крый Бог,
Не ўсачыла,
Крадком
Смокча дзядзька Хвядос самагонку
І прыкусвае хрумсткім гуркóм...

То за тым, то за гэтым
Цікую,
Каб пасля перанесці ў радкі.
Як паэт
Я штодня рызыкую.
То ж аднойчы й намнуць мне бакі!

---

Павел САКОВІЧ

### ЧАСОПІС «АЛЕСЯ»

"Алеся" з "Вожыкам" сябруе
І, больш таго, сімпатызуе...
Той у даўгу не застаецца:
Смяшыць яе і сам смяецца.

Калі ж гуляць ідзе "Алеся",
Ён любіць з ёй пабыць у лесе.
Яны па сцежках, па дарогах
Гуляюць разам — больш нічога!

Ну а калі якое свята,
Ён ля яе дзяжурыць хаты,
Каб падарыць ёй на заколкі
Свае найлепшыя іголкі!

### Рыгор ЯЎСЕЕЎ

Калючы, жвавы й не лысее:
Ну быццам вожык — Р. Яўсееў.
Ён гаварыць шмат неахвочы,
Бо цыгарэту часта смокча.
Ну а ў кішэню не за словам —
За пачкам "Прымы" лезе новым.
Затое злыдзень хай дрыжыць —
Рыгор дасць добра прыкурыць!
Сатыру й гумар шчодра сее
На радасць чытачу Яўсееў.
Але не час спраўляць дажынкі:
Яшчэ ў запасе ёсць смяшынкі!

### Алесь ПІСЬМЯНКОЎ

Ты не апошні быў паэт
Сярод імёнаў таго веку.
І ў новым свой пакінеш след...
У гэта верыць скептык Зэкаў.

Чакае зноў цябе Парнас,
Вянок лаўровы з німбам.
Адтуль, сцвярджае сам Тарас,
Рукой падаць і да Алімпа.

У вершах шчыры і ў гульбе —
Ну хто не ведае Алеся!
Стрыжэцца "Вожык" пад цябе
І вочкамі стрыжэ "Алеся".

### ЛеГал

ЛеГал не раз лягаў пісакаў,
Дый аглаблёй лупіў са смакам.
Бывала, гэтак "прыгалубіць"...
Ну хто ж тут крытыкаў палюбіць!
Аднак законна ўсё, ЛеГальна —
Няма ў тым справы крымінальнай.
І ўсё ж, калі так будзе й потым,
Ён адаб'е пісаць ахвоту!
Каб з тым ЛеГалам нейк змагацца,
Відаць, нам трэба згуртавацца.
А можа, ў складчыну ЛеГала
"Закажам" проста... "нелегалу"?

Анатоль ЦЫРКУНОЎ

### МАЛІТВА ПЕНСІЯНЕРАЎ

Падоўжы, Божа, век нам, грэшным,
Бо труны ў жудаснай цане,
Ужо й злосны жарт здаецца
смешным:
"Усіх вас бачыў у труне"...

---

Юрась СВІРКА

### ІНКОГНІТА
**(З нецярпеннем і надзеяй)**

Паэт чакаў сябе ў "Красе і Сіле"
Каля пяці гадоў. Ажно змарнеў.

### НАСКАЕ І ПАРНАСКАЕ

І Скоблу пазваніў:
— Міхаська мілы,
Калі ў "Звяздзе" ты вызначыш мяне?
Калісьці Сыс адказваў мне: "Пішыце,
А слава вам пастукае ў акно".
Ды Сыс замоўк.
І дзе ён, мне скажыце.
Магчыма на Парнасе ён даўно?"

Знайшоўся Скобла:
— Пра Сыса не знаю.
Вы шмат стварылі. Я да вас дайду.
Ваш вызначальны верш
Яшчэ шукаю.
І калі-небудзь, думаю, знайду.

### ЗАЛАЦІНКА

"Нізцы назву я даў:
Вершы розных гадоў.
І эпіграф з Шэкспіра —
Класічны!
Не магу зразумець,
Як такое знайшоў?
Ты глядзіш на мяне іранічна?" —
Ён хваліўся падборкаю і немалой.
Прачытаў я і выкажу шчыра:
Ёсць адна залацінка ў падборцы
тваёй —
Паэтычны эпіграф з Шэкспіра.

Марцін КОЎЗКІ

### КОЎЗАНКІ

• Шпагаглытальнік, але не фокуснік: прымае ўнутр сталь, а прымусіць публіку кідаць у капялюш манеткі за ўбачанае не здольны.

• Прафесар адолеў бы зло ўва сне, ды недзе падзеў сваё пенснэ. Ці дзіва, што першымі сярод традыцыйных пытанняў ідуць у фармулярах: "Хто вінаваты?", "Што рабіць?", "Дзе мае акуляры?"

• Нам здаецца, што ён смяецца. А ён тлумачыць, што з усмехам плача. Смех скрозь слёзы? Хмяльны ці цвярозы?

• — Чаго табе, мой харошы? — А я не за так, я за грошы. Мне б адлаведную паперку.
— І мне б адлаведныя паперкі. Бачыш, як у нашыя дні можна пазбегнуць бюракратычнай валтузні. Абое поўныя даверу, хоць і маем справу з паперамі.

• "Канчай дэбаты!!!" — канец цытаты.

Мікола ВЯРШЫНІН

## «АЛФАВІТНАЕ» КАХАННЕ

**(гумарэска)**

А, Б, В, Г, Д —
вось дык дэкальтэ!
Е і Ё, Ж, З —
я — не шымпанзэ.
І, К, Л, М, Н —
ты каля мяне.
О, П, Р, С, Т —
ноччу — "каратэ".
У, Ф, Х, Ц, Ч —
гамана цячэ.
Ы ды Э, Ю, Я —
вось у нас сям'я.
Засталося Шэ —
тут "Ля фам шэршэ".
Стаўлю мяккі знак:
я — мужык-мастак!



Малюнкі Паўла КАРПОВІЧА



Люблю аб'ектыўнасць і справядлівасць! (...) З пашанай да Вас

Ларыса Геніюш.
*Зельва 9/V. 67 г.*

(...) Я веру Вам вельмі, Максім Танк. Нягледзячы на высокае становішча, я адчуваю, што Вы засталіся сябрам і сынам свайго народа. Таму я без страху і засцярог і пішу Вам і да Вас прыеду. Таксама спадзяюся, што і Вашыя блізкія сябры будуць шчырымі прыхільнікамі народа нашага, яго культуры і мовы. (...)

Ларыса Геніюш
*Зельва 26/II.67 г.*

Дарагі Максім Танк!

Рада з Вашага ліста. Я яго баялася адчыняць, што ўбачу нейкі "другі Ваш твар", але, на шчасце, ён у Вас разумны і адзіны!!! (...) Што я ідэалізую наш народ — гэта праўда. Я шукаю шляхотнага, добрага, прыгожага і калі гэта знаходжу, забываюся аб ад'емным. Столькі зла супраць мяне ўсё жыццё, а я ўсё хачу бачыць светлым і чалавечым... Я не магу інакшай, Максім Танк. Мне хочацца паказваць людзям сваім, якімі яны павінны быць. Мне ўжо лягчэй. (...)

Мне нешта сталася, ува мне нешта замерла. Калі б у мяне быў рэвольвер, я ўжо не пісала б Вам гэтага ліста сяння. Мне так крыўдна, так несказана крыўдна і страшна тое, што сапраўднай крыўды не ўмею дароўваць... (...) Нейк жудасна ўсё гэта. Нікому не пішу і пісаць не збіраюся. Мне так балюча, калі мне не вераць, і так добра, што я гэта знаю... Ужо мяне нічога не вяжа з маею Радзімаю — гробам маей сям'і, магілаю жыцця маяго і таленту... На нашу старую, з мінулага стагоддзя, убогую хатку, налажылі неімаверна вялікі, як для нас, падатак і страхоўку, за мае кветкі не далі нам зямлі пад картофлю. Я яе і не садзіла б, але ўсё нейк збіраецца да аднаго... Глаўурач, трэба сказаць, яшчэ даволі чалавечы. (...)

Максім Танк, не пішэце мне болей, кожны мае свой лёс — крыж, які мусяя данесці. Жыццё Ваша светлае і цікавае, няхай яно будзе і далей такім. Памагаючы мне, Вы пашкодзіце сабе толькі, а гэта не трэба! Беларусь — гэта не толькі жыць для яе, трэба і гінуць часамі дзеля яе будучыні, дазвольце мне гэта!

Застаюся з вялікай павагаю да Вас.

Заўсягды Ваша

Ларыса Геніюш.

З пісьмаў вынікае, што М. Танк, нягледзячы на займаемыя ім высокія пасады і на свае высокія званні, на сваё членства ў камуністычнай партыі, не баяўся абараняць і падтрымліваць Л. Геніюш, весці з ёю прыватную перапіску, сустракацца, бываць у гасцях у яе дома, у Зэльве. Значыць, аб'ядноўвала, лучыла іх нешта большае і галоўнейшае, чым тое, што іх падзяляла і раз'ядноўвала. Гэтым "нечым" была, канечне ж, любоў да Бацькаўшчыны і свайго народа. Абое паэты зычылі Беларусі і беларусам толькі дабра і толькі шчасця. Яны былі нацыяналістамі ў самым узвышаным, самым узнёслым сэнсе гэтага слова. Абое яны жылі і памералі за Беларусь, з яе імем на вуснах. Таму ім хапала пра што пагаварыць пры сустрэчы...

І на заканчэнне — яшчэ адна цытата з кнігі М. Мікуліча "Паэзія рэчаіснасці: у свеце Максіма Танка" (Мн., 2001): "...якой бы моцнай і незалежнай не была паэтэса, пільную патрэбу ў чулым і зычлівым стаўленні да сябе, разуменні і падтрымцы яна мела сама. Пасля столькіх гадоў душэўных і фізічных мук, падазронасці і недаверу, проста людской няўвагі і абыякавасці, яна, можа, як ніхто іншы, цаніла і шанавала праўду і справядлівасць, годнасць і сумленне, шукала шчырага і глыбокага, сапраўднага сяброўства, сяброўства, на якое хацела абаперціся ў сваім нялёгкім жыцці.

Такое сяброўства падаравала ёй сустрэча з Максімам Танкам, якая адбылася ў кастрычніку 1966 года".

**Святлана ЯВАР**

*НА ЗДЫМКАХ: Максім ТАНК, 80-я гады; з жонкай і ўнукам; В. КОЎТУН, Д. БІЧЭЛЬ, Н. МАЦЯШ, У. КАРАТКЕВІЧ і Ларыса ГЕНІЮШ на VIII з'ездзе пісьменнікаў Беларусі, 1981 г.*



**ПАМЯЦЬ**

З Віктарам ШЫМУКОМ мне давялося працаваць у літаратурнай рэдакцыі Беларускага радыё недзе каля двух дзесяткаў гадоў. Быў ён чалавек таварыскі, кампанейскі, хаця і не надта вясёлай натуры, але з чулай душой, — праслухоўваючы якую-небудзь перадачу ў кабінеце галоўнага рэдактара, у яго нечакана магла навярнуцца на вачах сляза, якую ён хуценька змахваў даланёй. В. Шымук амаль ніколі не павышаў голасу, не патрабаваў у катэгарычнай форме выканаць і зрабіць тое ці іншае радыйнае заданне. І хаця ён займаў пасаду намесніка галоўнага рэдактара, але шчыраваў і сам, — амаль кожны тыдзень у эфіры гучалі яго ўласныя перадачы.

У паставе і паводзінах В. Шымука мелася нешта шляхетнае, выкшталцонае, з адначасовым усведамленнем уласнай годнасці, якая аднак не выпірала напаверх, не выглядала бахвальствам.

Уявіце сабе падлетка з былой Заходняй Беларусі, якога пасля заканчэння васьмігодкі, недзе ва ўзросце пятнаццаці-шаснаццаці гадоў бяруць на працу ў рэдакцыю раённай газеты ў якасці адказнага сакратара. Яму проста-такі неверагодна як шанцавала! За адзін ўдалы і таленавіты матэрыял яго выклікаюць у Мінск, з ім і іншымі пачынаючымі газетчыкамі сустракаюцца відныя і вядомыя цэкоўскія партапаратчыкі, хваляць, не шкадуюць слоў для падлетка-камсамольца, ставяць у прыклад, па сутнасці расчышчаюць, даюць яму дарогу на аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта і адначасова ў рэдакцыю сталічнай газеты "Калгасная праўда", дзё ён працаваў і спалучаў свой рэдакцыйны клопат са студэнцкімі заняткамі.

У творчым набытку В. Шымука маюцца сапраўдныя паэтычныя знаходкі і адкрыцці. Да іх у першую чаргу трэба аднесці лірычныя вершы, на словы якіх кампазітары напісалі музыку, і яны сталі песнямі. Па сваёй форме і гучанні — гэта лірычныя творы, напоўненыя хвалюючым і гарачым пачуццём, цнатлівасцю, шчырасцю і задушэўнасцю, што характэрна для твораў вуснай народнай творчасці, дзе гаворка ідзе менавіта пра каханне, сяброўства.

Удаваліся В. Шымуку і гумарыстычна-сатырычныя вершы. Ён меў прыроджаны талент гумарыста, умеў знаходзіць і бачыць у звычайнай з'яве нешта такое смешнае і дасціпнае, што не магло не крануць і іншых. Напрыклад, у вершы "Храбры заяц" аўтар расказвае, як два ваўкі паспрачаліся паміж сабой, каму дастанецца заяц, які п'яны ляжаў пад елкай, і так зацята, што справа дайшла да бойкі. У выніку чаго "ў жывых ваўкоў не стала", яны разарвалі адзін аднаго. А як жа паводзіў сябе заяц пасля ўсяго, што здарылася? "А касы прачнуўся рана, вочы вылупіў, глядзіць: — Ох, і трэба ж было п'яным мне такога натварыць", — гэтакай страфой заканчваецца верш. Дасціпна сказана? Безумоўна! У каго не з'явіцца на вуснах усмешка, калі ён прачытае вось такое! А такіх вершаў з-пад пяра В. Шымука выйшла нямала. Яны і сёння здольны крануць душу чытача, пацвярджаючы тое, што Віктар Шымук быў чалавекам шчырай душы і шчырага таленту.

**Васіль МАКАРЭВІЧ**

# ГОЛАСАМ СВАЙГО ЧАСУ

**Віктар ШЫМУК**



## МАЕ ДРЭВЫ

*Калі іду, заўсёды прыпынюся,*
*Ля помніка Купалу пастаю.*
*На ліпы кучаравыя дзіўлюся,*
*Гляджу на працу даўнюю сваю.*

*Дзень добры, дрэвы!*
*Вы мяне пазналі?*
*Было гэта шмат год*
*таму назад.*
*На гэтым месцы ямкі мы капалі*
*І ў іх садзілі ліпы рад у рад.*

*Цяпер заўсёды тут*
*я прыпынюся*
*І задуменна, ціха пастаю.*
*На ліпы кучаравыя дзіўлюся,*
*І іх, сваіх, заўсёды пазнаю.*

*І ім, траім, да скону*
*я не здраджу.*
*Яны ж раслі у вязынскім бары.*
*Вы не замерзлі?*
*Дайце вас пагладжу*
*Сваёй рукою цёплай па кары...*

•

*Дажыліся беларусы,*
*Даслужыліся.*
*Хоць жывем не пад прымусам —*
*Зажурыліся.*

*Ды я веру, што яшчэ*
*Не ўсё страчана, —*
*Заквітнее, зажыве*
*Мова матчына.*

## ДУБ

*Што думаў дуб,*
*Калі шумеў пад ветрам*
*На скрыжаванні ціхім*
*Дзвюх дарог?*
*Мабыць, ніяк ён восені не верыў*
*І вернасць лету*
*Светламу бярог?*

*Што думаў дуб,*
*Як завірухі злыя*
*Вакол яго спраўлялі*
*Снежны гул?*
*— Хоць лісце зберагу*
*Аж да вясны я.*
*Бо іншае згубіць —*
*Заўжды змагу.*

## МАЯ ВЯСНА

*Яна заўсёды, як надзея,*
*Яна — дабрынь і неспакой.*
*І з ёй нібыта маладзееш,*
*Святлей становішся душой.*

*Каторы год яе вітаю,*
*Каторы год мне не да сну.*
*І зноў нанова адкрываю*
*Сваю жаданую вясну.*

•

*На стале маім яблынь галінкі,*
*Што зімой з Наднямоння*
*прывёз,*
*З той далёкай і мілай мясцінкі,*
*Дзе калісь нарадзіўся і рос.*

*Я паставіў іх беражна ў вазу.*
*І мяняю штовечар ваду.*
*І яны расквітнелі адразу,*
*Ды навеялі мноства дум.*

*І цвітуць, зелянеюць галінкі,*
*І хвалююць мяне да слёз.*
*...А на шыбах акон — сняжынкі,*
*А за вокнамі люты мароз.*

*О галінкі з былога сада,*
*З хутарка, дзе было жытло,*
*Вам, як родным, шчымліва*
*рады —*
*Сэрца вы мне сагрэлі цяплом.*

